3 ліпеня 2015 | № 26 (443)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Медыйныя барыкады: ці ёсць іншы шлях?

стар. 6

4 АЛЕНА АНІСІМ АБЯЦАЛА ВЯРНУЦЦА

Намесніца старшыні ТБМ абвясціла, што выходзіць з прэзідэнцкай кампаніі, але не выключае свой удзел у 2020 годзе



5 БЕЛАРУСЬ НАЛЕЖЫЦЬ ДА РУСКАГА СВЕТУ

Ці ёсць прыхільнікі рускага свету ў Беларусі? Безумоўна. А як яны выглядаюць? Кіраўнік віцебскай ГА «Рускі дом» Андрэй Герашчанка не хавае сваіх меркаванняў і распавядае пра падабенства беларусаў з індзейцамі

13 КРЭМЛЬ ПЕРАНОСІЦЬ ВЫБАРЫ

Дзярждума РФ вырашыла перанесці дату парламенцкіх выбараў. Што стаіць за гэтым рашэннем, НЧ тлумачыць піцерскі прафсаюзны актывіст Сяргей Красноўскі

14 ПОГЛЯД ПРАЗ ШКЛО ГЕНАДЗЯ ДРАЗДОВА

Пасля размовы з Генадзем Драздовым я яшчэ раз пераканаўся, што таленавітыя людзі вельмі рэдка бываюць правільнымі і неканфліктнымі



# Шалёная беларуская палітыка

## Беларусь — краіна, здольная давесці да шаленства любога палітолага



Сяргей ПУЛЬША

Мы ўжо звыкліся з тым, што там, дзе збіраюцца тры сацыял-дэмакраты, абавязкова ствараюцца чатыры партыі з пяццю супрацьлеглымі меркаваннямі. Але апошняе рашэнне Цэнтральнага камітэта Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) увогуле пераварочвае ўсе ўяўленні пра класічную паліталогію.

Нагадаем, што 19 красавіка прэзідыум БСДП (Грамада) вырашыў падтрымаць кампанію па вылучэнні кандыдатам на пасаду прэзідэнта Таццяну Караткевіч. Тым больш, што сама прэтэндэнтка з'яўляецца сябрам гэтай партыі з 1999 года, прысутнічала на пасяджэнні прэзідыума і адказала на ўсе пытанні. Сама БСДП (Грамада) уваходзіць у кампанію «Народны рэферэндум», якая, апроч сацыял-дэмакратаў, аб'ядноўвае Партыю БНФ, Рух «За Свабоду» і ініцыятыву «Гавары праўду». Менавіта ў межах «Народнага рэферэндуму» выспела ідэя вылучэння Караткевіч на пасаду кіраўніка дзяржавы.

Прэзідыум тады ўпаўнаважыў старшыню партыі Ірыну Вештард правесці перамовы з партнёрамі па «Народным рэферэндуме» аб «фармаванні адзінага нацыянальнага перадвыбарчага штаба (Таццяны Караткевіч — аўт.), а таксама яго рэгіянальных структур».

На пасяджэнні ж 28 чэрвеня ЦК БСДП (Грамада) раптам прымае незразумелае і цалкам супрацьлеглае рашэнне. ЦК не падтрымаў кіраўніцтва партыі (то бок прэзідыум), і адмовіўся ад удзелу ў стварэнні ініцыятыўнай групы Караткевіч.

Паводле Вештард, рашэнне аб падтрымцы кандыдата ў прэзідэнты можа прыняць толькі з'езд. З'езд, як вынікае з заявы старшыні партыі, збіраць не плануецца. Разам з тым яна адзначыла, што сябры партыі могуць «самастойна ўваходзіць у ініцыятыўныя групы», але «цэнтралізавана партыя гэтага рабіць не будзе».

Такім чынам Караткевіч не падтрымлівае ўласная партыя. Рух «За Свабоду» таксама заяўляў, што ўстрымаецца ад вылучэння свайго кандыдата альбо падтрымкі іншых кандыдатаў падчас сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі. Падтрымала прэтэндэнтку «Гавары праўду» і Партыя БНФ.

Гэта любому заходняму палітолагу адразу вынесе мозг. «Левага» кандыдата на пасаду прэзідэнта вылучаюць «правыя» — Партыя БНФ. А свае ж «левыя» аднапартыйцы яго пракідваюць без тлумачэння прычынаў.

Можа быць, Таццяне партыю змяніць?

Між тым, ад гэтага «варушэння ў пясочніцы» самой Таццяне ні халодна, ні горача. Яна працягвае паездкі па рэгіёнах, сустрэчы з людзьмі. На афішных тумбах месцамі нават з'явіліся плакаты ў яе падтрымку. Фактычна, ініцыятыўная група Караткевіч пачала сваю працу па яе «раскрутцы».

Партыйнае ж рашэнне дзіўнае, малазразумелае і непаслядоўнае. Як бы ні апраўдвалася Вештард, кажучы пра «тэхнічнае» рашэнне прэзідыума ад 19 красавіка, яно было расцэнена ўсімі як падтрымка вылучэння Караткевіч. «Крок наперад, два назад» хоць і ў традыцыях беларускай сацыял-дэмакратыі, але ён можа сур'ёзна паўплываць на расклад у «апазіцыйнай пясочніцы» як да выбараў, так і пасля іх.




Па-першае, рашэнне сацыял-дэмакратаў адмовіцца ад падтрымкі Караткевіч ставіць пад пагрозу ідэю і існаванне самога «Народнага рэферэндуму». Ва ўмовах, калі дзве арганізацыі — Партыя БНФ і «Гавары праўду», — падтрымліваюць Караткевіч, а дзве — БСДП «Грамада» і Рух «За Свабоду», — ухіляюцца ад гэтай падтрымкі, «Народны рэферэндум», які да гэтага выглядаў маналітным, расколваецца на дзве прыкладна роўныя часткі. Чарговы раскол у беларускай апазіцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў не дадасць папулярнасці ўсёй апазіцыі ў цэлым. Ніхто не будзе разбірацца, чым «Народны рэферэндум» адрозніваецца ад Лябедзькі ці Калякіна, размова будзе адна: «Ізноў няздольныя аб'яднацца».

**Разборкі ўнутры «Народнага рэферэндуму» могуць прывесці да яго развалу**

Такім чынам, ЦК БСДП (Грамада) падстаўляе ўсіх дэмакратычных кандыдатаў агулам, без падзелу на «сваіх» і «чужых».

Разбор палётаў унутры «Народнага рэферэндуму» пасля прэзідэнцкіх выбараў можа прывесці да развалу гэтай ініцыятывы. Што будзе прыкра, бо пакуль што НР — адзіная дзейсная кааліцыя ў апазіцыйным асяродку. Пра «Талаку», якую стваралі камуністы са «Справядлівага свету» і лібералы АГП, нідзе нават не згадваецца. Тым больш, што на гэтых выбарах як старшыня «Справядлівага свету» Сяргей Калякін, так і лідар АГП Анатоль Лябедзька таксама ідуць на прэзідэнцтва — паасобку.

Па-другое, пасля выбараў такі ж «разбор палётаў», як у «Народнага рэферэндуму», не выключаны і ў самой БСДП (Грамада). Ужо зараз частка аднапартыйцаў можа задацца пытаннем: «А чаму гэта мы не падтрымалі свайго сябра, які ў нашай арганізацыі больш за 15 гадоў?». Гэтае пытанне пацягне за сабою яшчэ больш небяспечнае: «А ці падтрымае мяне мая партыя ў выпадку чаго? Можа, таксама адмовіцца, як ад Караткевіч?» Гэта можа прывесці да чарговага расколу ў сацыял-дэмакратаў. Але з іхнімі расколамі, як казалася вышэй, мы ўжо звыкліся.

# Праваабарончае назіранне пачалося

Генадзь КЕСНЕР

**Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» афіцыйна распачала сваю працу. 1 ліпеня ўжо пачалося доўгатэрміновае назіранне за выбарамі — на пасяджэнні ЦВК прысутнічае прадстаўнік кампаніі назірання.**

ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў сераду паведамілі старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта (БХК) Алег Гулак і намеснік кіраўніка зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч.

Па словах Гулака, мэтамі кампаніі з'яўляюцца назіранне за выбарамі, ацэнка выбарчага працэсу і забеспячэння правоў чалавека з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці пра ход выбарчай кампаніі ды пра высновы маніторынгу.

Кіраўнік БХК распавёў, што 1 ліпеня пачалося доўгатэрміновае назіранне. «Сёння адбываецца пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, і на ім ужо прысутнічае наш прадстаўнік», — паведаміў Гулак. Увогуле, доўгатэрміновае назіранне за ўсімі этапамі выбарчага працэсу і грамадска-палітычнай сітуацыяй будуць ажыццяўляць 50 (а мо і болей) доўгатэрміновых назіральнікаў, якія размеркаваны па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яны будуць акрэдытаваныя ў тэрытарыяльных камісіях.

Таксама за правядзеннем галасавання будуць назіраць 400 кароткатэрміновых назіральнікаў на 200 участках для галасавання па ўсёй тэрыторыі краіны.

Асабліва Алег Гулак падкрэсліў, што кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» з'яўляецца незалежнай і не мае палітычнай заангажаванасці. «Мы не ставім за мэту падтрымку палітычных партыяў, а таксама якіх-небудзь палітычных дзеячаў, у тым ліку і тых, хто заявіў пра свой намер удзельнічаць у выбарах. Увесь выбарчы працэс будзе ацэньвацца намі максімальна непрадузята, сыходзячы выключна з прынцыпаў свабодных, дэмакратычных і празрыстых выбараў, пры якіх народ нашай краіны можа ў поўнай меры рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права на ўдзел у кіраванні сваёй краінай і выбар кіраўніка дзяржавы», — адзначыў праваабаронца.

У сваю чаргу, Валянцін Стэфановіч акрэсліў фон, на якім будзе адбывацца гэтая самая важная электаральная кампанія пяцігоддзя. Ён назваў яго неспрыяльным для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў. На жаль, у Беларусі не адбылося ніякіх пазітыўных сістэмных зменаў у галіне правоў чалавека.

«Я маю на ўвазе, найперш, на ўзроўні заканадаўства і правапрымяняльнай практыкі. У месцах пазбаўлення волі застаюцца шэсць палітвязняў, — адзначыў Стэфановіч. — А ўвогуле, калі казаць пра грамадскія і палітычныя правы, то яны маюць даволі абмежаваны характар. Гэта тычыцца рэалізацыі такіх свабодаў, як права на мірныя сходы, асацыяцыі, выказванне свайго меркавання. Нашу асаблівую занепакоенасць выклікае тое, што зараз адбываецца з журналістамі. Я маю на ўвазе ціск найперш на тых журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, а таксама працяглую кампанію кантролю над сродкамі масавай інфармацыі ў прынцыпе. Гэта і змены ў закон аб СМІ, і выпадкі блакавання сайтаў».

Стэфановіч нагадаў, што папярэднія выбарчыя кампаніі заўсёды вызначаліся павелічэннем колькасці рэпрэсіяў у краіне. «Мы не проста кампанія па назіранні, мы — «Праваабаронцы за свабодныя выбары», гэта азначае, што наш праваабарончы складнік нікуды не дзяваецца, і мы ацэньваем як працэдуры, так і тое, што адбываецца падчас выбарчай кампаніі. І калі мы будзем сутыкацца з такімі з'явамі, як прэвентыўныя затрыманні актывістаў напярэдадні выбараў, блакаванне сайтаў, ціск на ўдзельнікаў выбарчага працэсу, на грамадзян, парушэнні правоў (у тым ліку і выбарчых) мы, канешне, пра ўсё гэта будзем гаварыць і пісаць. Напрыклад, пра прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні».

Праваабаронцам хацелася б верыць, што ўстаноўкі ўладаў на тое, каб выбары прайшлі спакойна, не будуць суправаджацца парушэннямі правоў чалавека і нейкімі прэвентыўнымі захадамі ў выглядзе арыштаў і ціску спецслужбаў.

# Ці трэба журналістам звяртацца ў ААН?

Генадзь КЕСНЕР

**Сябра БАЖ з Магілёва Аляксандр Буракоў накіраваў індывідуальную скаргу ў Камітэт па правах чалавека (КПЧ) ААН.**

Ён просіць КПЧ прызнаць факт парушэння з боку Рэспублікі Беларусь яго правоў, гарантаваных артыкулам 19 у сукупнасці з пунктамі 2 і 3 артыкула 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Буракоў, як паведамляе прэсслужба БАЖ, звярнуўся ў КПЧ ААН пасля праходжання ўсіх судовых інстанцыяў у Беларусі ў спробах абскардзіць свой штраф. 8 кастрычніка 2014 года суддзя Ленінскага раённага суда Магілёва Алена Волкава пакарала на 40 базавых велічынь. Суд прызнаў журналіста вінаватым у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ. Падставаю для пакарання паслужыў размешчаны на сайце «Deutsche Welle» (dw.de) 25 жніўня 2014 года артыкул «Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье?» за подпісам Аляксандра Буракова.

Ад беларусаў у КПЧ ААН за апошнія дваццаць гадоў былі накіраваны дзясяткі скаргаў, якія беларускія ўлады проста праігнаравалі. Дык навошта журналістам марнаваць час і высілкі дзеля чарговых зваротаў у гэтую міжнародную структуру?

Як адзначыў у каментары НЧ старшыня БАЖ Андрэй Бастунец, гэта пытанне, наколькі ўвогуле мае сэнс змаганне за свае правы прававымі сродкамі, калі ў пераважнай большасці выпадкаў вынік зразумелы.

«З практычнага пункту гледжання ёсць магчымасць, што калі зменіцца ўлада, то ўсе «соображения», як гэта завецца ў КПЧ, будуць прынятыя да ўвагі. Асабіста я спадзяюся, што крытычная маса такіх высноваў КПЧ пэўным чынам уплывае на беларускія ўлады і можа прымусіць іх з цягам часу змяніць практыку, — мяркуе кіраўнік БАЖ. — Нельга казаць, што ўсе нашы высілкі дарэмныя. Мы бачым, што пэўныя вынікі ёсць, умоўна кажучы, сёлета мы налічылі толькі шэсць затрыманняў журналістаў, а ў папярэднія гады такіх выпадкаў было значна больш. Хаця зразумела, што да канца бягучага года гэтая лічба можа істотна змяніцца, асабліва на перыферыі. І я спадзяюся, што ціск з боку міжнародных структураў, у тым ліку і рашэнні КПЧ ААН, могуць паўплываць і на змяненне практыкі прыцягнення да адказнасці журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ».

Сёлета мелі месца ўжо больш за 20 выпадкаў асуджэння журналістаў да вялікіх штрафаў. Наперадзе — новыя суды. Так, як паведамляе Служба маніторынгу БАЖ, у Глыбоцкім раённым судзе будуць судзіць журналістаў Таццяну Смоткіну (9 ліпеня) і Змітра Лупача (10 ліпеня). Пачатак абодвух працэсаў а 10.00. Супраць Тацццяны распачата адміністрацыйная справа за выраб матэрыялу «Дарогі ў Глыбокім стануць пазітыўнымі», размешчанага 9 чэрвеня на сайце «Беларускага Радыё Рацыя» (Польшча). Змітра Лупача вінавацяць за артыкул «Знайшліся сваякі памежніка, які загінуў на Глыбоччыне 17 верасня 1939 года», размешчаны на сайце «Еўрарадыё». Пратакол аб правапарушэнні (артыкул 22.9 КаАП) на журналіста, як і на Тацццяну Смоткіну, склаў старшы інспектар Вячаслаў Барыла.

«Так, у чэрвені было восем штрафаў, за ўвесь мінулы год — з красавіка да канца года — дзесяць штрафаў. Пакуль спыніць гэтае кола не атрымліваецца, але гэта не значыць, што не трэба рабіць намаганняў, каб спыніць гэта ў будучыні», — упэўнены Андрэй Бастунец.

Дарэчы, за апошні час суддзі паводле міліцэйскіх пратаколаў ужо 21 раз судзілі журналістаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Агульная сума штрафаў ужо перавысіла 100 мільёнаў беларускіх рублёў.

# Не «русским миром», а беларускім светам

Марат ГАРАВЫ

**У Мінску адбыўся круглы стол «Барані сваё: культурніцкі актывізм і беларуская ідэнтычнасць», арганізаваны Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі, зарэгістраванай у Вільні.**

Падчас пасяджэння, у якім прымалі ўдзел вядомыя грамадскія і культурніцкія дзеячы, быў выказаны шэраг цікавых прапановаў дзеля таго, каб Беларусь была не «русским миром», а беларускім светам.

Так, Вінцук Вячорка звярнуў увагу на тое, што сёння ў Беларусі назіраецца не проста канфлікт беларускай і расійска-савецкай ідэнтычнасцяў, а экзістэнцыяльны канфлікт, паколькі гаворка ідзе пра тое, быць ці не быць беларускай нацыі. Прычым, небяспека такая, якой не было, бадай што, з пачатку XX стагоддзя, падкрэсліў спадар Вінцук. На ягоную думку, культура — галоўны паратунак, бо замацоўвае пачуццё агульных перамогаў, пакутаў і лёсу беларускай нацыі, а значыць, і нацыянальнай ідэнтычнасці.

Як лічыць Вячорка, удзел цяперашняй беларускай дзяржавы ў культурніцкіх праектах вельмі небяспечны, бо пагражае звырадненнем і дыскрэдытацыяй. «Так што даваць заданні мы можам толькі самі сабе», — адзначыў спадар Вінцук. На сайце Міністэрства культуры ён прапанаваў пазнаёміцца з праектам Кодэксу аб культуры, дзе адсутнічае паняцце «беларускі народ», у стратэгіі культурнага жыцця грамадзянскай супольнасці ўключыць той набор каштоўнасцяў, які дазволіць адразу пазнаваць сваіх і ажыццяўляць узаемадапамогу, а таксама пазбыцца зайздрасці і рэўнасці. «Цяпер крытэр павінен быць адзін: думае чалавек падобна і хоча таго самага, што і мы, ці не, бо ў культурнай сферы паўстаў цэлы шэраг небяспекаў, імітацыйных структураў і накірункаў, што дыскрэдытуюць ідэю нацыятворчасці», — падкрэсліў Вінцук Вячорка.

Аляксей Глушко звярнуў увагу на тое, што традыцыйная беларуская культура з'яўляецца стрыжнем нацыі, падмуркам яе самабытнасці і нацыянальнай ідэнтычнасці. Сутнасць стратэгіі культурніцкага руху ў трэцім сектары спадар Аляксей бачыць у экспансіі традыцыйнай беларускай культуры ў сучаснае грамадства ў форме інфармацыйных, адукацыйных і медыйных праектаў, а таксама ў прасоўванні традыцыйнай беларускай культуры ў сусветную медыйную прастору для стварэння вонкавага іміджу Беларусі. Аляксей Глушко нагадаў, што пра паспяховасць такой стратэгіі сведчыць вопыт краінаў-суседак, якія зрабілі свае традыцыйныя культуры нацыянальным брэндам і візітнай карткай сваіх краінаў, у тым ліку Літвы, Латвіі, Эстоніі, Нарвегіі і Швецыі, дзе добра захавалася традыцыйная нацыянальная культура і менталітэт.

На думку Вацлава Арэшкі, дзеля таго, каб бараніць сваё, неабходна ствараць прывабныя вобразы, якія ўвасабляюць беларускую ідэнтычнасць. А паколькі дзяржава робіць усё дзеля таго, каб захаваць «савецкую Беларусь», ад уладаў трэба дабівацца выканання законаў, а таксама пашыраць стасункі з сумленнымі людзьмі незалежна ад таго, знаходзяцца яны пры ўладзе, ці ў апазіцыі. Сярод заданняў структурам асамблеі Вацлаў Арэшка назваў стварэнне мапы дзейнасці па фармаванні беларускай ідэнтычнасці і падрыхтоўку стратэгіі развіцця культурніцкага руху ў трэцім сектары.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Здарылася жахлівае

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здарылася жахлівае — у беларусаў раптам скончыліся грошы. Не тое, каб зусім, але, падаецца, святы 3 ліпеня будуць апошнім шанцам для грамады добра пад'есці. Прынамсі, для Мінска.**

Як паведаміў БелаПАН, у Мінску блізкія да закрыцця каля сотні кавярняў, бараў ды рэстарацыяў. Ужо цяпер недастаткова раскручаныя ўстановы завяршаюць працу. У чэрвені дасягнуў піку масавы распродаж аб'ектаў грамадскага харчавання. Асноўная прычына — спад пакупніцкай здольнасці насельніцтва: зніжаецца як колькасць наведвальнікаў, так і сярэдні кошт замовы. Пры гэтым даражэюць прадукты харчавання, растуць зарплаты кухараў і афіцыянтаў. З-за недастаткова высокай колькасці наведвальнікаў некаторыя аб'екты грамадскага харчавання не могуць пакрыць арэндныя стаўкі.

Пэўную ролю ў звужэнні колькасці аператараў грамадскага харчавання згулялі і дзеянні Мінгандлю РБ, які з пачатку года прыпыніў дзейнасць сотняў аб'ектаў гандлю і грамадскага харчавання.

Эксперты прагназуюць, што ў бліжэйшыя два гады сітуацыя выправіцца, бо да нас маюць намер прыйсці буйныя замежныя сеткі грамадскага харчавання, такія, як Burger King, KFC, Hesburger, якія складуць канкурэнцыю звыкламу McDonald's. Але ж рэстарацыі зачыняюцца ўжо зараз, а чакаць два гады — даволі доўга. Калі, канешне, гэтыя міжнародныя карпарацыі ўвогуле не адмовяцца ад сваіх планаў з-за «выключна спрыяльнага беларускага інвестыцыйнага клімату».

Для Мінска гэта, бадай што, катастрофа. У параўнанні з іншымі сталіцамі — Кіевам, Вільняй, Варшавай, — у нас і без таго было вельмі мала кавярняў ды рэстарацыяў. Замежныя госці пастаянна сутыкаліся з праблемай: дзе можна танна і смачна пад'есці. Асабліва складана было тым, хто жадаў паспытаць беларускай кухні. Зараз жа сітуацыя ўскладніцца яшчэ ў разы.

Такія «трывожныя званочкі» паступаюць не толькі з рэстарацыяў. Яшчэ, напрыклад, на мінулым тыдні ў краіне пачаліся афіцыйныя продажы тэлефонаў iPhone. І, як ні дзіўна, гэтыя «статусныя» апараты попытам у насельніцтва не карыстаюцца. Няма грошай, каб заплаціць 12,5 мільёнаў за самую танную мадэль — хай і з афіцыйнай гарантыяй.




Чаму ж беларусы перасталі хадзіць у рэстарацыі? Падаецца, рознымі «падаткамі на беспрацоўе» з іх выцягнулі апошнія грошы. Прыйшлося зацягнуць паясы. А новых грошай узяць няма адкуль. Бо працы папросту няма.

Колькасць беспрацоўных у Мінску на канец мая склала 5,5 тысяч чалавек, паведамляе галоўнае статыстычнае ўпраўленне Мінска са спасылкай на дадзеныя Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама. Падаецца, гэта няшмат для двухмільённага Мінска. Але гэта як паглядзець: 5 000 чалавек — гэта цэлы завод МАЗ.

Такая колькасць беспрацоўных — гэта таксама ў 3,4 разы (340%!) больш, чым на канец мая 2014 года і на 5,2% больш, чым у канцы красавіка гэтага года. То бок, беспрацоўе імкліва расце, і канца гэтаму не бачна.

Нельга пры гэтым не сказаць пра «схаванае беспрацоўе». Напрыклад, як вы думаеце, колькі за чатыры месяцы ў Беларусі створана збожжаўборачных камбайнаў? Роўна 11! Прычым у маі — ніводнага!

І амаль такая ж сітуацыя — па ўсёй прамысловасці. Мінскі трактарны завод за пяць месяцаў сабраў 16,4 тысячы трактароў. А за пяць месяцаў 2014-га года МТЗ збіраў 25 700 адзінак гэтай тэхнікі. МАЗ стварыў за пяць месяцаў 285 аўтобусаў, а ў 2014-м збіралі ў два разы больш — 596 аўтобусаў. І грузавікоў вырабілі 1 466, а год таму за пяць месяцаў збіралі 3 281 грузавік. У 2,2 разы больш.

Вытворчасць тэлевізараў упала больш чым у тры разы: 49 800 штук у студзені-маі 2014 года, і 14,8 тысяч — сёння.

Ну і адкуль узяцца ў людзей грошам, калі працы няма?

Адзіны ў нас спадзеў на замежнікаў. Яны таксама нас падводзяць.

Напрыклад, мы спадзяваліся, што Расія нам хутка дасць крэдыт хаця б на тое, каб рэфінансаваць тыя пазыкі, якія ў нас ёсць. То бок, заняць грошы, каб аддаць ранейшы доўг. З гэтым не спяшаюцца. Нядаўна кіраўнік Мінфіна сінявокай Уладзімір Амарын паведаміў, што Беларусь у першай палове ліпеня атрымае гэтыя грошы. Суму крэдыту Амарын не назваў.

Аднак ягоны калега з Мінфіну Расіі Сяргей Сторчак астудзіў запал Амарына. Па словах Сторчака, Расія толькі абдумвае магчымасць выдзялення Беларусі чарговага крэдыту для рэфінансавання беларускім бокам бягучых плацяжоў па абслугоўванні знешняга доўгу. «Адпаведнае рашэнне ўрада Расійскай Федэрацыі яшчэ рыхтуецца. Рашэнне аб тым, што мы акажам падтрымку з пункту гледжання рэфінансавання знешняга доўгу Беларусі яшчэ не прынята», — заявіў намеснік кіраўніка Мінфіна РФ.

Застаецца спадзявацца на іншых замежнікаў. На наступным тыдні да нас завітае місія Міжнароднага валютнага фонду з мэтай абмеркавання ўмоў выдзялення Беларусі новага крэдыту.

«Па просьбе беларускіх уладаў з 8 па 15 ліпеня каманда супрацоўнікаў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) пад кіраўніцтвам Дэвіда Хофмана наведае Мінск. Мэтай місіі з'яўляецца абмеркаванне мер эканамічнай палітыкі і планаў уладаў па правядзенні рэформаў, уключаючы ацэнку таго, ці сталі яны досыць рашучымі, каб быць патрыманымі ў межах пагаднення з МВФ», — гаворыцца ў паведамленні МВФ.

Раней той жа Амарын даў зразумець, што ўлады краіны разлічваюць атрымаць ад фонду крэдыт на суму 3,5 мільярда долараў. Прыкладна такі ж, які выдзяляў нам МВФ у 2009–2010-х гадах.

Да чаго гэта прывяло, мы ўсе добра ведаем. Грошы, якія даў МВФ, амаль цалкам былі страчаныя на падтрымку «беларускага эканамічнага цуду». На выбарах 2010 года Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз «элегантна перамог», за што потым дзякаваў МВФ. А ў 2011-м годзе здарылася самая моцная дэвальвацыя ў гісторыі Беларусі з пачатку 90-х гадоў. Здавалася б, пры чым тут валютны фонд?

Пры гэтым варта зазначыць, што Беларусь, канешне, расплацілася па гэтым крэдыце, але… Але яна не выканала ўмовы выдзялення таго крэдыту. Напрыклад, умовы аб прыватызацыі банкаў. Не выкананыя таксама ўмовы крэдыту АКФ ЕўрАзЭС датычна прыватызацыі штогод на $2,5 мільёна. Карацей, умовы выдачы нам грошай мы не выконвалі стабільна.

Ці забяспечыць МВФ «элегантную перамогу» Аляксандра Рыгоравіча ў чарговы раз?

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Мікалай Статкевіч

**Экс-кандыдат у прэзідэнты і палітвязень распачаў сваю прэзідэнцкую кампанію. А адміністрацыя магілёўскай турмы №4 водзіць да яго экскурсіі.**

Па-першае, Статкевіч пагадзіўся на прапанову калегаў па «Народнай Грамадзе» і «Еўрапейскай кааліцыі» сфармаваць ініцыятыўную групу па яго вылучэнні, а пасля гарантаванай адмовы ў яе рэгістрацыі абвясціць байкот выбараў. Статкевіч адзначыў, што разумее ініцыятараў ягонага вылучэння: «Людзі прыстойныя і з актыўнай пазіцыяй не могуць як удзельнічаць у відавочнай клаунадзе, так і быць убаку ад палітычных падзей. Вылучэнне (Статкевіча — аўт.) трэба, перш за ўсё, ім самім як маральная акцыя, якая засведчыць іх пазіцыю як да «выбараў», так і да тых, хто гатовы пакорліва згуляць адведзеную ім ролю ў гэтым спектаклі. Не магу адмовіць людзям, якія неаднаразова сцвярджалі сваю годную пазіцыю ў жорсткіх умовах, у іх праве зрабіць гэты маральны жэст».

Тым часам адміністрацыя папраўчай установы разам з супрацоўнікамі Хоцімскага РУУС арганізавалі спецыяльную паездку для «цяжкіх падлеткаў» у Магілёўскую турму №4. Падчас экскурсіі дзеці азнаёміліся з сістэмай аховы і ўмовамі пражывання асоб, якія там адбываюць пакаранне.

Не вядома, ці паказвалі падлеткам самога Статкевіча. Але наведванне палітвязняў можа стаць «разынкай» любой экскурсіі ў турму. Як не ўзгадаць пра мары беларускіх гісторыкаў ператварыць у музей мінскі следчы ізалятар, які месціцца ў будынку Пішчалаўскага замку на вуліцы Валадарскага. Там сядзелі ўсе палітвязні, пачынаючы ад Якуба Коласа.



## Ігар Карпенка

**Лідар Камуністычнай партыі Беларусі і адначасна намеснік старшыні Мінскага гарвыканкаму выразшыў падседзець старшыню КДБ Валера Вакульчыка.**

Па ягоных словах, менавіта КПБ мае намер перашкодзіць апазіцыі вывесці людзей на Плошчу пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Лідары кампартыі плануюць «мабілізаваць усе існуючыя рэсурсы і не дапусціць спроб правядзення дэструктыўнымі сіламі апазіцыі не санкцыянаваных упаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі пікетаў, сходаў, мітынгаў, шэсцяў і іншых мерапрыемстваў пасля закрыцця выбарчых участкаў». Менавіта так на з'ездзе КПБ заявіў першы сакратар ЦК КПБ Карпенка.

У той жа час, кіраўнік КДБ Валер Вакульчык паведаміў, што не бачыць перадумоў для ўзнікнення пратэстных акцый у ходзе выбарчай кампаніі. «Як вы бачыце, у нас стабільная сітуацыя. Усе мы разам паспрабуем, каб яна такой і засталася. Мы не бачым ніякіх перадумоў для пратэстных акцый», — працытаваў Вакульчыка «Інтэрфакс».

Такім чынам, па-першае, Карпенка бачыць тое, чаго не бачыць КДБ. Па-другое, у яго ёсць людзі, здольныя супрацьдзейнічаць «незарэгістраваным мерапрыемствам». На месцы Вакульчыка я б зацікавіўся, што гэта за «прыватная армія» і супраць каго яна можа дзейнічаць насамрэч.

## Сяргей Лявіцкі



**Футбалісты — таксама людзі, і ім нішто чалавечае не супрацьпаказанае, у тым ліку і эмоцыі.**

Менавіта такім шчырым эмацыйным учынкам адзначыўся футбаліст «Слуцка» Сяргей Лявіцкі. Ягоныя дзеянні будуць, напэўна, самай прыгожай з'явай у беларускім футболе ў гэтым сезоне.

Сяргей Лявіцкі падчас гульні ягонай каманды з гродзенскім «Нёманам» забіў вельмі прыгожы гол у вароты суперніка. А затым ён прабег амаль праз усё поле, падбег да трыбуны, дзе сядзела яго дзяўчына, стаў перад трыбунай на адно калена і зрабіў каханай прапанову рукі і сэрца.

І хто скажа, што каханне не робіць цудаў? «Слуцк» з'яўляецца аўтсайдэрам цяперашняга чэмпіянату. Аднак у гэтым матчы з «Нёманам» гульцы клуба нечакана разграмілі гаспадароў поля. Вынік матчу — 0:4 на карысць закаханых случчанаў.



# Адсутнасць нечаканасцяў

Генадзь КЕСНЕР

**Палата прадстаўнікоў, як і чакалася, 30 чэрвеня прызначыла дату выбараў на 11 кастрычніка. Гледзячы па ўсім, гэта будзе самая не цікавая электаральная кампанія за ўвесь час найноўшай беларускай гісторыі.**

Насамрэч, дата тут адыгрывае не самую галоўную ролю. Хаця для ўлады і магчыма. Сітуацыя ў эканоміцы пагаршаецца такімі тэмпамі, што не тое што кожны месяц, кожны тыдзень на рахунку. Хто яго ведае, што можа быць у галовах выбарцаў у кастрычніку, і тым больш у лістападзе, калі дабрабыт будзе пагаршацца і пагаршацца, а эканоміка і надалей каціцца долу.

Старт кампаніі дадзены, але што будуць рабіць вітрынныя апаненты ўлады, дагэтуль не вядома. Тое, як паводзілі сябе апазіцыянеры ў плане падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года, не ўкладаецца ні ў якія разумныя палітычныя рамкі.

Некалькі гадоў мусолілі пытанне «адзінага кандыдата», ды так і не вымусалілі. Раз'яднанне апазіцыі такое, якога, бадай, не было за ўсе 20 гадоў. І зараз усе патугі, каб стварыць хоць нейкі выгляд апаніравання дзейнай уладзе і яе праваднік, поспеху не будуць, тут да бабулі не хадзі.

Удзел апазіцыі ў выбарах, хутчэй за ўсё, будзе нагадваць батлейку. Улада ў асобе Ярмошынай зарэгіструе таго, хто будзе падавацца ёй больш бяспечным. Тым больш што спарынг-партнёр ёсць, і апрабаваны ён ужо ў часе некалькіх прэзідэнцкіх кампаніяў. Сур'ёзнага ж апанента ад апазіцыі гэтым разам не праглядваецца.

На думку эксперта Аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерыя Карбалевіча, самым галоўным ворагам і бядою кіраўніка Беларусі сёння з'яўляецца эканоміка. А вось тут ні ён, ні ягоныя памагатыя-чыноўнікі рады даць не могуць. Законы эканомікі не падпарадкоўваюцца дэкрэтам, указам ці рыку галоўнага чыноўніка. А калі ў электарату завурчыць у страўніку, ніякія заклікі патрываць і пацярпець могуць не адыграць той ролі, якую яны гралі апошнія дваццаць з гакам гадоў.

Хоць досвед апошняга часу паказвае, што беларусы могуць вытрываць усё, нават трохразовую дэвальвацыю, і не пікнуць. Такі вось народ. Але хто яго ведае, як тое будзе далей.

Тым не менш, больш за ўсё сведчыць пра тое, што цяперашняя электаральная кампанія будзе самай сумнай. Бо нават самі апазіцыянеры не ставяць перад сабою задачу перамагчы. І змяніць прагназавана сярмяжны сюжэт, хутчэй за ўсё, могуць толькі нейкія ну зусім нечаканыя ўнутраныя ці знешнія падзеі. Але наўрад ці.

З упэўненасцю можна казаць, што сцэнар 2010 года не паўторыцца. Улада застаецца той жа, але апазіцыя змянілася. Не ў лепшы бок. Ды і электарат таксама, асабліва на тле таго, што адбываецца ва Украіне. Так што працэдура пераабрання дзеючага кіраўніка перататвараецца ў прымітыўную банальнасць з вядомым загадзя вынікам.

# Алена Анісім абяцала вярнуцца

Сяргей ПУЛЬША

**Дзень прызначэння прэзідэнцкіх выбараў прынёс не толькі першыя заяўкі на перамогу, але і першыя страты. Намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім абвясціла, што выходзіць з прэзідэнцкай кампаніі.**



Алег Трусаў паабяцаў вылучыць Анісім у прэзідэнты ў 2020 годзе

Адпаведнае рашэнне прыняла не персанальна намесніца старшыні «Таварыства беларускай мовы», а ўся яе каманда. У выніковай заяве грамадзянаў, якія падтрымалі вылучэнне Анісім у прэзідэнты, зазначаецца, што ініцыятыва па вылучэнні была прадыктавана «геапалітычнай сітуацыяй, калі адбыўся захоп часткі Украіны і пачуліся заклікі адносна таго ж лёсу і ў дачыненні да Беларусі». А таксама «нежаданнем апазіцыі знайсці паразуменне і вызначыцца на гэтыя выбары з адзіным кандыдатам».

У выніку грамадзяне сканцэнтравалі свае намаганні на тым, каб «кансалідаваць перакананых прыхільнікаў незалежнасці і даведаць наш агульны голас да беларускай і міжнароднай грамадскасці, а таксама распачаць шырокі дыялог з удзелам розных грамадскіх слаёў па найбольш важных і неадкладных пытаннях».

За гэты час, адзначаюць грамадзяне, якія вылучалі Анісім, быў праведзены Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, прыняты Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі, арганізавана абмеркаванне палітычнай і эканамічнай сітуацыі на пасяджэннях адпаведных камісій.

«Улічваючы ўсё вышэйсказанае, а таксама адсутнасць канкрэтных зменаў у выбарчым працэсе, мы прыйшлі да наступных высноваў: спыніць свой удзел у кампаніі па вылучэнні кандыдатуры на пасаду прэзідэнта ад нацыянальна-патрыятычных сіл у сёлетняй выбарчай кампаніі. Сканцэнтраваць свае намаганні па кансалідацыі беларускага грамадства на аснове дыялогу і пашырэння кола падпісантаў Маніфеста ў абарону незалежнасці», — гаворыцца ў дакуменце.

На прэс-канферэнцыі Алена Анісім зазначыла: «Нават калі я не лічу гэта адзіна правільным рашэннем, тым не менш, такое рашэнне каманды. Я лічу, што трэба падпарадкоўвацца, бо я лічу, што працаваць можна толькі ў камандзе. Такім чынам, гэта нашае агульнае рашэнне».

Як паведаміў старшыня ТБМ Алег Трусаў, галоўнай падставай зняцця Анісім з выбараў стала тое, што не былі ўнесеныя змены ў выбарчае заканадаўства. Спадар Трусаў прыгадаў, што патрабаванне аб змене заканадаўства ён агучыў аж па нацыянальным тэлебачанні. «Хаця б перафарматуйце папярэдняе галасаванне! Таму што калі 30% заганяюць на папярэдняе галасаванне, то хто вас будзе прызнаваць? У нармальнай краіне, калі ёсць папярэдняе галасаванне, гэта палова працэнта, нейкія адзінкі галасуюць», — кажа Трусаў.

Канешне, сябры ЦВК заявілі, што змяніць заканадаўства немагчыма, на што Трусаў заўважыў: ён сам быў дэпутатам, і за значна больш кароткі прамежак часу прымаліся больш лёсавызначальныя рашэнні. «Незалежнасць прымалі за гадзіну», — сказаў Трусаў.

«Паколькі нашы прапановы, якія былі агучаныя на ўсю Беларусь, не былі прынятыя, мы вырашылі так: калі сітуацыя ў нас такая… То правільна казала Ярмошына, што рыхтавацца да выбараў трэба на наступны дзень пасля папярэдніх выбараў. Таму мы не спыняем фармаванне сваёй каманды. Мы хочам да наступных выбараў ужо зараз пачаць ствараць нармальную вялікую каманду, некалькі тысячаў чалавек ініцыятыўнай групы, з каардынатарамі, з праграмай і гэтак далей», — сказаў Трусаў.

Анісім з паплечнікамі будзе (прынамсі, мае намер) рыхтавацца да прэзідэнцкіх выбараў 2020 года.

«Зараз мы звяртаемся да дэмакратычнай грамадскасці Беларусі: калі не здолелі абраць адзінага перад выбарамі, трэба думаць пра гэта падчас выбараў. І не выключана, што на будучых выбарах спадарыня Алена можа разглядацца як адна з кандыдатур для абрання адзінага кандыдата. Бо зразумела, што пакуль у апазіцыі не будзе адзінага кандыдата, перамогі не можа быць, нават калі зменіцца заканадаўства», — сказаў Трусаў.

«Таму мы не спыняем нашу дзейнасць, будзем павялічваць сваю групу, распаўсюджваць сваю праграму і пільна назіраць за гэтым працэсам, які называецца выбарамі», — заявіў Трусаў.

Пра падтрымку нейкага іншага дэмакратычнага кандыдата на сёлетніх выбарах Алена Анісім адказала проста: «На сённяшні дзень афіцыйна ніхто да нас не звяртаўся аб тым, каб скаардынаваць нашы намаганні. Былі нейкія намёкі, але на сённяшні дзень прамых адкрытых прапановаў аб аб'яднанні нашых намаганняў не было. Магчыма, штосьці зменіцца заўтра, але гэта будзе заўтра».

І праяўляць ініцыятыву ў гэтым Анісім не збіраецца. На пытанне, ці магла б яна сама выступіць каардынатарам такіх намаганняў, яна адказала: «Я павінна гэта абмеркаваць са сваёй ініцыятыўнай групай. Таму што, ведаеце, людзі, асабліва ў партыях, часам прымаюць рашэнне, на каго працаваць, не пытаючыся ў сябраў сваёй партыі. Такі падыход да людзей для мяне непрымальны. Людзі самі вызначаюцца, на каго ім працаваць, з кім ім быць у камандзе. Асабістае мерканне? Калі мне паступяць такія прапановы, значыць, я тады буду думаць, і тады скажу».

Не дачакаюцца падтрымкі ад гэтай каманды і стваральнікі ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча. Трусаў увогуле лічыць гэтую ініцыятыву незразумелай. «Калісьці я быў у камандзе па вызваленні Казуліна, і ў мяне шмат пытанняў да гэтай ініцыятывы. Я лічу, што збіраць ініцыятыўную групу… Ці варта гэта рабіць? Бо ўзнікае момант: пашпартныя дадзеныя. Нават у нашай групе як падпісацца — дык усе «за», а як узніклі пашпартныя дадзеныя, то не ўсе іх даюць. Кажуць, выбачайце, заўтра мяне па гэтых пашпартных дадзеных з працы выганяць ці з універсітэту выключаць. І зараз гэтыя людзі самі панясуць гэтыя пашпартныя дадзеныя, а потым мы атрымаем што? Новых палітвязняў? Таму я лічу, што змагацца за Статкевіча і іншых палітвязняў трэба ўвесь час, незалежна ад таго, будуць выбары ці не будуць. Я не прыхільнік такіх дзеянняў — здаваць пашпартныя дадзеныя людзей і падстаўляць іх пад рэпрэсіі», — патлумачыў старшыня ТБМ.

«Ёсць дзве тактыкі кампаніі. Гэта ісці на выбары да канца, што б там ні было, і ісці, каб перамагчы. Каб ісці толькі для таго, каб паказаць волю і гатоўнасць ісці да канца, гэта адно. Але я разумею, што ў дадзеным выпадку перамагчы не ўдасца. Таму я не толькі прыслухалася да голасу каманды, але прыняла гэтае рашэнне, бо я прывыкла дасягаць поспеху ў тых справах, за якія я бяруся. Таму сённяшняе рашэнне рэальнае. Можа быць, мы можам гіпатэтычна шкадаваць аб нейкіх нерэалізаваных магчымасцях. Але на самай справе мы разумеем, што мы патрацім намаганні, якія не прынясуць тых вынікаў, на якія мы разлічваем», — заключыла Анісім.

# Андрэй Герашчанка: Беларусь належыць да рускага свету

Вольга ХВОІН

**На тле падзей ва Украіне размовы пра «рускі свет» набылі асаблівa вострае адценне. Ці ёсць яго прыхільнікі ў Беларусі? Безумоўна. А як яны выглядаюць? Кіраўнік віцебскай ГА «Рускі дом» Андрэй Герашчанка не хавае сваіх меркаванняў і распавядае пра падабенства беларусаў з індзейцамі.**



Андрэй Герашчанка

***— «Рускі дом» — даволі малая арганізацыя. Чаму? Не знаходзіце прыхільнікаў свайго светапогляду?***

— Закон патрабуе больш за 10 чалавек, каб стварыць грамадскую арганізацыю. У нас сярэдняя спісачная колькасць — 28–32 чалавекі. Удзел у мерапрыемствах арганізацыі бярэ большая колькасць людзей, але нефармальна. Чым большая фактычная колькасць людзей, тым складаней выконваць розныя працэдуры, напрыклад, праводзіць з'езды. Закон падштурхоўвае нас да такой дэкларацыі колькасці сябраў. Таксама мы сутыкнуліся са складаным стаўленнем дзяржавы да нашай арганізацыі. І лішні раз уцягваць людзей у дзейнасць, якая можа перашкаджаць іх кар'еры, няма сэнсу. У 2002 годзе са мной не працягнулі кантракт пасля майго інтэрв'ю расійскаму парталу «Мацярык», мой намеснік Скарынкін таксама быў вымушаны пакінуць пасаду начальніка гарадскога аддзела спорту і турызму. Шэраг сябраў нашай арганізацыі былі пад ціскам і напісалі заявы на выхад з «Рускага дома». То бок мы бачым, што адносіны з Расіяй выбудоўваць можна, але толькі пад пільнай увагай уладаў. Хто робіць гэта самастойна — патрапляе пад рэпрэсіі. Я ў гэтым трагедыі не бачу, і мы настроеныя неагрэсіўна да ўладаў.

***— У гэтых дзеяннях можна ўбачыць лагічныя намаганні Беларусі абмежаваць уплыў на сваёй тэрыторыі сілаў, якія падтрымліваюць расійскую ідэалогію.***

— Безумоўна. Толькі паглядзіце, у 1991 годзе адбыўся распад СССР. Межы былі ўстаноўленыя штучна. Рускамоўны фон пераважае. Дык і палітыку трэба выбудоўваць без спробаў арганізаваць дыстанцыю ад рускіх. Лепш паказваць людзям неабходнасць суверэннай дзяржавы. Ва Украіне стала зразумела, што адна дзяржаўная мова немагчымая без гвалту, бо людзі абіраюць дзвюхмоўе. У нас тое ж самае — 98% абяруць рускую мову. У Мінску, як і паўсюль, ёсць магчымасць фарміраваць беларускамоўныя класы. Але нават дзеці нашых апазіцыянераў не хочуць ісці ў беларускія класы (канкрэтызацыі не было. — аўт.).

***— Бо для адукацыі ў рускамоўным класе ніякія намаганні не патрэбныя, а для адукацыі па-беларуску трэба напісаць заяву, знайсці аднадумцаў. Гэта ўзаконеная сегрэгацыя.***

— Ды не, атрымліваецца, што большасць мусіць змяніць сваю мову, бо некамфортна меншасці. Напрыклад, індзейцы ЗША — там жа цэлыя штаты не пераходзяць на мову індзейцаў, хаця менавіта апошнія і ёсць карэнным насельніцтвам.

***— У 90-я гады колькасць беларускамоўных школ і садкоў была непараўнальная большая, чым цяпер. Для многіх людзей, якія вучыліся ў 1990-я, беларуская мова — натуральная. Цяпер жа настаўнікі расказваюць, як дзеці ўжо ў пачатковых класах беларускамоўныя тэксты чытаюць са слоўнікам. Ваша пазіцыя акурат і падтрымлівае палітыку, калі тытульная нацыя застаецца па-за бортам.***

(З гэтага моманту гутаркі Андрэй Герашчанка перайшоў на беларускую мову. — аўт.)

— Я вучыўся ў савецкі час, засвоіў беларускую мову і не маю з ёй складанасцяў. У 1990-я гады была спроба пабудаваць дэмакратычную нацыянальную дзяржаву. Фактычна, усе прыхільнікі беларускай мовы паставіліся крытычна да фігуры Лукашэнкі і пайшлі да яго ў апазіцыю. Калі б яны тады занялі крыху іншую пазіцыю, моўнае пытанне магло б сёння выглядаць інакш. А для Лукашэнкі ў выніку беларуская мова стала асацыявацца з рухамі, што пагражаюць непасрэдна яму. У мяне адштурхоўванне беларускай мовы з'явілася, калі я пабачыў антыpускія настроі сярод беларускіх нацыяналістаў. Калі беларуская мова становіцца інструментам развалу геапалітычнага канкурэнта — у дадзеным выпадку Расіі, то гэта адштурхоўвае людзей. Вось, напрыклад, Чарнобыльскі шлях. Некалі на яго прыходзілі 50 тысяч. А цяпер 500–1000 чалавек. Бо на Чарнобыльскі шлях пачалі выносіць іншыя пытанні — палітвязняў, Еўрасаюзу. То бок гэта проста нагода, інструмент для іншых мэтаў.

***— Як вы бачыце канчатковую мэту інтэграцыйных працэсаў з Расіяй?***



— Я чалавек Савецкага Саюза. Мой выпуск ва ўніверсітэце быў апошнім у СССР. Таму для мяне распад дзяржавы быў асабістай трагедыяй. Калі будзе выгадна і неабходна, Расія будзе нармальна развівацца (а сёння ёсць пытанні па гэтай тэме), то можа быць аб'яднанне па ўзору канфедэрацыі ці нават адной дзяржавы. Суверэнітэт для Беларусі не з'яўляецца нейкай самамэтай. Я ў суверэннай Беларусі апынуўся, калі загінула вялікая краіна. Але гэта, канешне, не значыць, што мы імкнёмся, каб Расія праглынула Беларусь. А тым больш цяпер. Бо постсавецкая прастора структурызуецца, ЗША не можа ўтрымаць усе свае заваёвы пасля распаду СССР. Беларусь належыць да рускага свету. Пад рускім светам я разумею падабенства алфавіту, культуралагічны фон. Але гэта не значыць, што нам трэба жыць у адной дзяржаве. А вось калі падзеі будуць ісці паводле ўкраінскага варыянту… Праз некаторы час Беларусі трэба будзе рабіць геапалітычны выбар.

***— Што вы разумееце пад украінскім варыянтам?***

— Цяперашні ўкраінскі варыянт — гэта ўкраінізацыя, то бок аднамоўе, змена гістарычных, ідэалагічных парадыгмаў. У нас можна назіраць нешта падобнае, калі выцягваюць партрэты Вітушкі і астатніх, дыскрэдытуюць партызанскі рух, які, быццам бы, быў вінаваты ў рэпрэсіях фашыстаў супраць мясцовага насельніцтва. Гэта нейкі варыянт украінскага Галадамору: вінаватай робяць Маскву, а ўхваляюць каштоўнасці Еўрасаюза. І як не будзе моцнай дзяржаўнай улады тут, то можна чакаць Плошчу, беларусізацыю і гэтак далей. І з верагоднасцю ў 95% гэта выкліча сітуацыю Данбаса, бо Расія будзе вымушаная ўмяшацца. Тут частка цывілізацыйнай прасторы, якая належыць нашым народам. Нікога нельга зрабіць шчаслівым прымусова. Чалавек мусіць сам праявіць сімпатыі да нейкіх ідэй.

***— Сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што ў Беларусі ўжо многа гадоў сімпатыі грамадства прыкладна напалову падзеленыя паміж Расіяй і Захадам.***

— У нас не надта добрая эканамічная сітуацыя. Маладыя людзі бачаць еўрапейскі досвед і разлічваюць, што калі будуць знятыя бар'еры, то з'явіцца многа шансаў рэалізаваць сябе. А ёсць яшчэ група, што скіраваная на працу ў Расіі. І як будзе згорнутая інтэграцыя з Масквой ды паўстануць межы, то ў гэтых людзей будуць праблемы. У нас ёсць рускамоўныя і беларускамоўныя, праваслаўныя і каталікі. І героі ў гэтых людзей розныя — у каго Касцюшка, а ў каго Суворaў. І калі пачынаюць усіх раўняць, выдаваць адзіны набор герояў, то гэта выклікае канфлікт. Не трэба мне расказваць, што я мушу рабіць як шчыры беларус. Бо атрымаем той жа вынік, што быў у часы СССР, ці ёсць цяпер у нас на дзяржаўных святах.

***— У сакавіку газета «Наше православие», рэдактарам якой вы з'яўляецеся, надрукавала гутарку з Маргарытай Зайдлер, грамадзянкай Германіі, якая ваюе за баевікоў «Наваросіі». У тэксце ідзе ўхваленне ўдзелу праваслаўных вернікаў у вайне ва Украіне, у праваслаўнай газеце фактычна друкуюцца заклікі ісці і забіваць людзей. Чаму вы прапусцілі гэты тэкст?***

— Я не ўсе матэрыялы праглядаю, бо даваряю сваім супрацоўнікам. Можа быць, і не паставіў бы гэты тэкст. Але падзяляю меркаванне, што ўладу ў Кіеве захапіла хунта, частка насельніцтва падняла бунт. Я не заклікаю да вайны. Але мы не бачым варыянтаў для Данбасу, каб вярнуцца ў склад Украіны. Самае дрэннае, калі забіваюць людзей. Таму ніякай вайны для Беларусі я не хачу. Гэта самы найгоршы варыянт для Беларусі. Я б зусім не хацеў, каб тут бегалі неадэкватныя людзі і ўсё было ў дыме.

***— Калі б цяпер з'явіліся сілы, якія б, напрыклад, прапанoўвалі ўздымаць пытанне аб далучэнні да Расіі, вы б падтрымалі іх?***

— А чаго мы баімся? Што людзі падтрымаюць гэтую ідэю. Дык трэба ствараць такія ўмовы, каб людзі хацелі жыць у гэтай дзяржаве.

***— І ўсё ж?***

— Ну, умовы ж розныя могуць быць. Але, да прыкладу, калі б беларуская мова была аб'яўлена адзінай, то падтрымаў бы. Гэта пазіцыя светапогляду, а не нацыянальнасці.

## Пасляслоўе

Мяркую, можна абысціся без высноў, чытачы НЧ зробяць іх самастойна. Але варта памятаць, калі дазволіць д'яблу ўвайсці ў царкву, ён падмеціца і на кафедру прапаведніка.

Ёсць меркаванне, што ўсходняя частка Беларусі больш русіфікаваная, больш лаяльная да Расіі, там пануюць асаблівыя настроі і сімпатыі. Ці гэта так, мы пацікавіліся ў жыхароў Віцебска, якія, верагодна, ходзяць аднымі вуліцамі з Андрэем Герашчанкам.

***Раман Воранаў, экскурсавод:***



*— Я не адчуваю розніцы паміж людзьмі свайго горада ці жыхарамі Гродна, Магілёва. Мне цяжка меркаваць пра ярка выражаныя сімпатыі. На такую тэму хіба што варта рабіць адмысловыя даследаванні. Няма ў мяне і ўражання папулярнасці, вядомасці прарасійскіх арганізацый. Ёсць нават рэальныя паказчык падтрымкі ініцыятывы: калі ставілі помнік князю Альгерду, «расійская грамадскасць Віцебска» выступіла супраць гэтай ініцыятывы. У падтрымку свайго бачання яны сабралі ажно восем подпісаў. Ад апісанняў у інтэрнэце дзейнасці ў рэале больш не становіцца.*

***Павел Левінаў, праваабаронца:***



*— Як праваабаронца я мяркую, што кожны павінен мець права на стварэнне грамадскіх арганізацый, але трэба абмяжоўваць іх дзейнасць, калі гэта можа пагражаць нацыянальнай бяспецы. Напрыклад, у нас жа забароненыя неанацысцкія арганізацыі. І мне не незразумела, чаму абласныя ўлады заплюшчваюць вочы на дзейнасць «Рускага дома». Журналістаў, як толькі нешта не так сказалі, папярэджваюць. На суткі садзяць, штрафуюць, а тут пад носам такая арганізацыя дзейнічае! Ва Украіне ж таксама ўсё не пачалося ў адзін дзень. І раздача расійскіх сцяжкоў, стварэнне тэматычных суполак у сацыяльных сетках — усё гэта нездарма. Адразу ўспрымаецца як жарт, але асядае ў памяці. На Данбасе таксама не адным днём усё пачалося. Шчірліц дасканала валодаў нямецкай, але працаваў на рускую выведку. Пра гэта трэба памятаць.*

# Дынар супраць долара

Алег НОВІКАЎ

**«Ісламская дзяржава» (ISIS) пачала выпрацоўваць свае грошы — ісламскія дынары. Нумізматы радуюцца, а эксперты спрабуюць зразумець наступствы такога кроку для сусветнай фінансавай сістэмы.**

Першыя паведамленні пра намер тэрарыстаў стварыць сваю грашовую сістэму датаваныя мінулым лістападам. Тады іх лідар, самаабвешчаны халіф Абу Бакр аль-Багдадзі заклікаў да стварэння альтэрнатывы «тыранічнай манетарнай сістэме сатаны», пад якой разумеўся цяперашні фінансавы лад, заснаваны на ролі долара ЗША. Альтэрнатывай дыктату долара, на думку аль-Багдадзі, магло стаць вяртанне на рынак сярэднявечных залатых дынараў, якія прыкладна ў VII стагоддзі пачаў выпрацоўваць халіф Абдул-Малік ібн Мерван, 5-ы халіф з дынастыі Амеядаў.

Напярэдадні 29 чэрвеня, у гадавіну нараджэння праекту «Ісламскай дзяржавы», такія манеты сапраўды адчаканілі. Экстрэмісты распаўсюдзілі ў сеціве наступную заяву: «Добрыя навіны для вернікаў. Неўзабаве валюта Ісламскай дзяржавы з'явіцца на руках грамадзян Халіфата ва ўсіх раёнах, кантраляваных ісламскім законам». Тэкст быў ілюстраваны выявай новай манеты, якая сапраўды знешне падобная на манету Амеядаў. Сыходзячы з цяперашніх цэнаў на золата, яе кошт — каля 140 долараў ЗША.

Тэма залатога дынара займае важнае месца ў ісламскай спадчыне. Пра гэту грашовую адзінку дэталёва распавядаецца ў Каране. У адпаведнасці з запісамі ў Каране, гэта была манета з золата ў 24 караты, або 4,25 грама. Мусульманам прадпісваецца выкарыстоўваць такія грошы падчас здзелак, для выплаты ачышчальнага падатку (закят) і збераджэнняў.

Той факт, што ў Каране гаворыцца выключна пра залатую манету, з часам выклікала вялікую дыскусію вакол пытання, як вернікі павінны ставіцца да папяровых банкнотаў. Некаторыя мусульманскія школы дасюль адмаўляюць за банкнотамі функцыі грошай. Іншыя кажуць, што банкноты не супярэчаць запаведзям прарока Мухамеда, паколькі ў ісламскіх эканоміках здаўна былі распаўсюджаныя розныя віды так званых абаротных дакументаў, што прымаліся да аплаты нароўні са звычайнымі металічнымі грашыма.

У любым выпадку, пытанне вяртання да залатога стандарту ніколі не здымалася з павесткі дня ў мусульманскіх краінах. Напрыклад, яго актыўна абмяркоўвалі ў 1950-я гады, калі рэгіён ахапіла мода на арабскі нацыяналізм. Лічылася, што пераход да залатой манеты дапаможа вырашыць праблему знешняга доўгу перад краінамі Захаду. У 1970-я гады каталізатарам для рэанімацыі старой дыскусіі стала рашэнне Ніксана адмовіцца ад прывязкі долара да золата. Лічылася, што апаратыўны запуск залатога дынара здольны пертварыць яго ў вядучую валюту свету. У 1992 годзе ў невялікай колькасці былі адчаканеныя першыя залатыя дынары, якія выкарыстоўваліся ў разліках паміж членамі Morabeteen International Organization — арганізацыі, якая складаецца пераважна з грамадзян заходніх дзяржаў, што перайшлі ў іслам. Пасля ўвядзення еўра лівійскі правадыр Муамар Кадафі заклікаў краіны Паўночнай Афрыкі заснаваць аналаг еўравалюты — дынар. Кадафі нават прапанаваў для гэтага свой фонд памерам у 144 тоны золата.

Аднак самая буйная спроба адрадзіць дынар мела месца ў пачатку нашага стагоддзя як рэакцыя шэрагу ўрадаў на азіяцкі фінансавы крызіс 1997–1998 гадоў. Прыкладна ў 2001 годзе малайзійскі прэм'ер Махатхір Махамад прадставіў праект залатога дынара ў якасці адэкватнага адказу на выхадкі валютных спекулянтаў, якія абвалілі нацыянальныя валюты многіх дзяржаў рэгіёну. На думку прэм'ера, з-за невялікіх ваганняў коштаў на золата рызыкі спекуляцый з новай валютай будуць зведзены да мінімуму, а гэта значыць, што міжнародны гандаль атрымае дастаткова стабільны інструмент для разлікаў. Непасрэдна чаканіць дынары павінен быў новы Ісламскі банк развіцця. Таксама планавалася, што залаты дынар будзе ўведзены ў абарот у 2003 годзе, а да 2010-га стане міждзяржаўным плацежным сродкам у мусульманскім свеце.



**Залатым дынарам карыстаюцца Малайзія, Бангладэш, Емен, Мальдзівы, Іран, Бруней і яшчэ некалькі краін**

У рэальнасці ўсё пайшло больш павольна. На цяперашні дзень залаты дынар існуе як умоўная адзінка для разлікаў, якой карыстаюцца Малайзія, Бангладэш, Емен, Мальдзівы, Іран, Бруней і яшчэ некалькі краін.

Невялікі інтарэс да праекту тлумачыцца ў тым ліку пазіцыяй МВФ, які блакуе любыя спробы прадаваць нафту — асноўны прадукт рэгіянальнай эканомікі — за тыя дынары. У гэтым плане некаторыя схільныя разглядаць праект залатога дынара як выклік ЗША і кантраляваным імі міжнародным фінансавым арганізацыям. На думку некаторых экспертаў, увод залатога дынара можа выклікаць абвал долара і еўра.

Праўда, хапае і праціўнікаў агучаных вышэй тэорый. Недастатковыя аб'ёмы золата ў ісламскіх краінах не дазваляюць казаць аб стварэнні ў агляднай будучыні нейкага валютнага залатога стандарту, лічаць яны. Спробы акумуляваць у ісламскіх дзяржавах золата з усяго свету справакуе выбух коштаў на гэты метал і імкліва разбурыць фінансавыя сістэмы краін, якія намагаюцца ўжываць золата ў якасці паўсядзённага сродку разлікаў.

Спрэчку прадстаўнікоў гэтых лагераў эканамістаў часткова дапаможа вырашыць цяперашні праект банкіраў-тэрарыстаў. Ісламская дзяржава мае някепскія рэзервы, каб падтрымліваць незвычайны эксперымент. Як піша адна іспанская газета, штомесяц за кошт продажы нафты і газу з тэрыторый, якія кантралюе ISIS, яна атрымлівае каля 2 мільёнаў долараў, якія тэарэтычна можна пусціць на набыццё золата і вытворчасць дынараў. Пытанне — ці прымусіць гэта людзей па ўсім свеце трымаць свае капіталы не ў доларах, а ісламскіх дынарах. Пакуль, калі меркаваць па блогасферы, публіка не вельмі рвецца мяняць зялёныя на грошы ISIS. Галоўным чынам тымі дынарамі цікавяцца нумізматы, якіх, безумоўна, мала, каб абваліць «тыранічную манетарную сістэму сатаны».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Гэта раней для нас, ды і для ўсёй Еўропы, Аляксандр Рыгоравіч са сціплым псеўданімам «Бацька» быў жорсткім дыктатарам і ворагам свабоды слова і дэмакратычных асноў. А зараз — практычна аплот дэмакратыі і еўрапейскіх каштоўнасцяў. Мы цяпер з ім сябруем, на яго раўняемся, у Мінск лятаем угаворваць Пуціна, у Кіеве сустракалі яго і дзякуем за дапамогу. А тое, што ён у сябе даўно ўжо «памножыў на нуль» усю апазіцыю і трымае ў яжовых рукавіцах усіх свабодалюбівых грамадзян, дык гэта глупства. Мы на гэта заплюшчваем вочы. Вось і атрымліваецца, што сёння мы «сябруем» з кіраўнікамі, нічым, па сутнасці, не адрозным ад крамлёўскага тырана. А ведаеце чаму? Таму што ўсе нашы кіраўнікі таксама хочуць быць аднаасобным кіраўнікамі і быць пры ўладзе дзесяцігоддзямі. На шчасце, ва Украіне гэта ўжо немагчыма. Пасля Майдана — дакладна.

**«LB» (Украіна)**

Беларуская эканоміка ўвайшла ў стан рэцэсіі: ВУП краіны планамерна зніжаецца ўжо паўгода — мінус 3% па выніках студзеня-мая 2015 года. Экспарт за чатыры месяцы ўпаў на 30,5%. Адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі набліжаецца да 1 мільярда долараў. У эканоміцы растуць неплацяжы, прамысловыя прадпрыемствы ў большасці сваёй працуюць няпоўны працоўны тыдзень, узровень рэальных заробкаў падае (мінус 3%), выплачваюцца яны з затрымкай. Эксперты лічаць, што дата правядзення прэзідэнцкіх выбараў перанесеная на месяц раней, чым называлася, менавіта таму, што пачатак кастрычніка — крытычная кропка, да якой яшчэ можа дацягнуць беларуская эканоміка. Далей улады вымушаныя будуць пачынаць нейкія змены пад ціскам абставінаў, а любыя рэформы — з'ява цяжкая. Праводзіць іх можна толькі пасля заканчэння прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

**«Независимая газета» (Расія)**

У будучых падручніках беларускай гісторыі ён (Лукашэнка) будзе названы бацькам беларускай незалежнасці, таму што любога іншага Масква даўно б зацягнула: у Масквы адносна Беларусі былі цалкам пэўныя планы — зрабіць яе суб'ектам Расійскай Федэрацыі, а Лукашэнка вадзіў іх за нос гадоў 10–15.

**«24.ua» (Украіна)**

На працягу апошняга года Захад паступова пазбаўляе беларускага прэзідэнта статусу «апошні дыктатар Еўропы». У ЕС прыйшлі да высновы, што ізаляцыя Беларусі і яе кіраўніцтва толькі падштурхоўвае краіну бліжэй да Расіі. Дапамог і ўкраінскі канфлікт, які дазволіў Лукашэнку паказаць сябе галоўным еўрапейскім міратворцам. У гэтай сітуацыі беларускі лідар, настойваючы, што Расія заўсёды будзе яго галоўным партнёрам, усё ж адмовіўся прызнаць анексію Крыма, стаў выбудоўваць дэманстратыўна сяброўскія адносіны з Парашэнкам і адстойваць самабытнасць беларускай нацыі. Калі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года супраць Лукашэнкі і яго паплечнікаў былі ўведзеныя санкцыі, дык зараз, наадварот, Брусэль спрабуе ўмацаваць адносіны з Мінскам. Еўропа мяркуе, што чым менш ізаляцыя Беларусі, тым менш яна залежыць ад Расіі.

**«Газета.ру» (Расія)**

ФСБ і КДБ Беларусі праводзяць сумесныя калегіі — у іх сумеснае планаванне і сумесная справаздачнасць. Нават у нашых дыпламатычных установах беларускія калегі працуюць у інтарэсах расійскіх калегаў, выконваючы іх замовы. Гэтак жа яны працуюць і па Украіне, у расійскіх інтарэсах. У іх ёсць агульнае ваеннае камандаванне, планаванне ваеннай абароннай дзейнасці. Значыць, гэта ваенна-палітычныя саюзнікі. І гэта вышэйшая форма ўзаемаадносін паміж незалежнымі дзяржавамі. Таму лічачы, што гэта нейтральная краіна, мы праводзім перамовы, на самай справе, на тэрыторыі праціўніка. Мінск — гэта самы няўдалы з усіх магчымых выбараў. Фактычна, адзінае, што гэта дае — магчымасць вяртання Лукашэнкі ў высокую палітыку. Ён выкарыстоўвае гэта досыць эфектыўна для вырашэння сваіх праблем. Навошта гэта Украіне?

**«112.ua» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЧЭХІЯ. Яна Гуса рэабілітуюць

Ватыкан зрабіў чарговы крок у рэабілітацыі Яна Гуса — асветніка, героя чэшскага народа, ідэолага мясцовай рэфармацыі, ахвяры інквізіцыі. Напярэдадні 6 ліпеня, калі 600 гадоў таму Гуса адправілі на вогнішча па загадзе тагачаснай папскай курыі, цяперашні Папа Францыск асудзіў той учынак.

Ён, у прыватнасці, прызнаў, што рашэнне інквізітараў пра спаленне Гуса за тое, што ён адмовіўся прызнаваць свае погляды ерассю, было несправядлівым. Папа таксама прыняў дэлегацыю прадстаўнікоў так званых «чэшскіх братоў» — рэфармісцкай царквы паслядоўнікаў Гуса, якую Касцёл доўгі час пераследаваў. Падчас размовы з «чэшскімі братамі», якіх па ўсім свеце налічваецца не больш за 3 000 чалавек, пантыфік падкрэсліў, што ўсе хрысціяне — чальцы хрысціянскай сям'і. На думку чэшскіх біскупаў, крокі Ватыкана будуць спрыяць росту папулярнасці каталіцкай веры ў Чэхіі.

Трэба прызнаць, што піянерам у працэсе рэабілітацыі Яна Гуса ўсё ж быў Папа Ян Павел II, які прынёс прабачэнне за пакаранне Гуса падчас свайго візіту ў Чэхію ў 1995 годзе.

**Паводле чэшскай прэсы**

### ІРАК. Якімі будуць межы Курдыстана?

Эксперты сталі ўсё часцей звяртаць увагу на непазбежнасць фарміравання курдскай дзяржавы ў межах, якія выходзяць за тэрыторыю іракскага Курдыстана. Поспехі атрадаў курдскага апалчэння ў баях з «Ісламскай дзяржавай» на поўначы Сірыі надалі гэтым развагам новы імпульс. Паступова пачынаецца праца над тым, як будуць выглядаць межы будучай курдскай дзяржавы.

Амерыканскі аналітычны цэнтр «Савет па міжнародных адносінах» (Council on Foreign Relations) правёў спецыяльную канферэнцыю на гэту тэму. Курдыстан у пашыраных межах бачыцца арганізатарам на тэрыторыях Ірака, Ірана, Сірыі і Турцыі, дзе кампактна расселеныя прадстаўнікі карэннага насельніцтва рэгіёна. Калі такая дзяржава ўзнікне, яе насельніцтва складзе каля 40 мільёнаў чалавек. Праблема ў тым, ці пагодзяцца Анкара (у Турцыі жывуць 22 мільёны курдаў) і Тэгеран (у Іране іх налічваецца 12 мільёнаў) аддаць частку сваіх зямель пад курдскі праект.

Удзельнікі канферэнцыі прызналі, што гэта пытанне складанае, аднак вялікі Курдыстан здольны прынесці мір на Блізкі Усход. З'яўленне на мапе курдскай дзяржавы можа астудзіць старыя геапалітычныя амбіцыі ўсіх краін рэгіёну і стварыць падставы для міру паміж Ізраілем і арабскім светам.

**Паводле турэцкай прэсы**

### РАСІЯ. «Аўрора» як сімвал ганьбы Расіі

Камуністы Расіі не на жарт раз'юшаныя. Серп і молат на карме крэйсера «Аўрора» — сімвала Кастрычніцкай рэвалюцыі, — заменяць на двухгаловага арла ў ходзе рамонту і мадэрнізацыі. Пра гэта заявіў дарадца губернатара Санкт-Пецярбурга Ігар Курдзін. «Герб СССР на карме «Аўроры» будзе заменены на сучасны расійскі герб — двухгаловага арла. Праўда, савецкія сімвалы размесцяць у экспазіцыі крэйсера», — адзначыў ён.

Паводле яго слоў, у музейную экспазіцыю «Аўроры» таксама будуць унесены змены — акцэнт будзе перанесены з Кастрычніцкай рэвалюцыі на ўдзел карабля ў Руска-японскай, Першай сусветнай і Другой сусветнай войнах.

Камуністычная грамадскасць разглядае інавацыі як замах на савецкую спадчыну і працяг нядаўняга скандалу, калі на будынак піцерскай вайсковай акадэміі хацелі павесіць шыльду ў гонар фінскага маршала Манергейма, які паспеў паваяваць як у царскай арміі Расіі, так і на баку Гітлера. Цікава, што новай канцэпцыяй крэйсера-музея не задаволеныя і рускія патрыёты. Справа ў тым, што Руска-японская вайна — гэта сімвал ганьбы Расіі. «Няўжо гідам на «Аўроры» давядзецца распавядаць турыстам пра тое, як у Расіі забралі Курыльскія выспы?» — можна прачытаць на форумах патрыётаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### СЕРБІЯ. Гаўрылу Прынцыпа ўшанавалі ў помніку

Сербскі прэм'ер Таміслаў Нікаліч 28 чэрвеня асабіста адкрыў у Бялградзе помнік Гаўрыле Прынцыпу, які ў чэрвені 1914 года забіў аўстрыйскага прынца Франца Фердынанда, што, як вядома, стала падставай для пачатку Першай сусветнай вайны. Тады Бялград адмаўляўся прызнаць сувязь з тэрарыстам. А вось цяперашнія лідары краіны ганарацца суайчыннікам.

«Сёння мы не баімся праўды. Гаўрыла Прынцып быў героем, сімвалам ідэі свабоды, смерці тыранаў і апосталам еўрапейскай ідэі вызвалення ад рабства», — сказаў Нікаліч падчас адкрыцця помніка. Ён падкрэсліў, што Сербіі ўсё роўна, што думаюць пра Прынцыпа ў іншых краінах.

Як ні дзіўна, навіна з Бялграда не выклікала асаблівага інтарэсу ў краінах, якія былі праціўнікамі Сербіі падчас вайны 1914–1918 гадоў. Адрэагавалі хіба аўстрыйскія феміністкі, якія ўзгадалі, што Прынцып забіў у Сараеве не толькі Франца Фердынанда, якога яшчэ неяк можна лічыць тыранам і прыгнятальнікам, аднак і яго жонку графіню Сафію.

**Паводле нямецкай прэсы**




# Сумны юбілей

*Алег НОВІКАЎ*

**Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) — партыя Ангелы Меркель — адзначае 70-ю гадавіну. Прэса між тым задаецца пытаннем: ці ёсць у Меркель і яе аднапартыйцаў падставы для святкавання?**

Такая пастаноўка пытання падаецца трошкі недарэчнай. Хрысціянскія дэмакраты, або «чорныя», як іх называюць з-за партыйных фарбаў, — бясспрэчны цяжкавагавік нямецкай палітыкі. Бацькі-заснавальнікі партыі наўрад ці маглі нават верыць, што іх дзіця чакае такая бліскучая будучыня. Нагадаем, што партыя паўстала ўвесну 1945-га, прычым яшчэ да заканчэння вайны. Прынамсі першыя распрацоўкі праграмы адносяцца да сакавіка 1945-га, а непасрэдны заклік да стварэння арганізацыі быў агучаны 26 чэрвеня таго ж года. Гэта дата і лічыцца днём нараджэння партыі.

Як правіла, у шэрагі новай структуры запісваліся былыя сябры правацэнтрысцкай партыі Веймарскай рэспублікі. Увогуле, яны на шмат не замахваліся, плануючы проста адрадзіць аналаг каталіцкай партыі «Цэнтр», якая існавала ў Германіі да вайны і ніколі не дамінавала на палітычнай сцэне.

Спачатку CDU, сапраўды, нагадваў копію з партыі «Цэнтр». На першых рэгіянальных выбарах, якія дазволілі правесці акупацыйныя адміністрацыі, партыя прыйшла чацвёртай. Дасюль цяжка комплексна зразумець, у выніку чаго Саюз здолеў не толькі стаць вядучай сілай на правым цэнтры, аднак у дадатак інтэграваць у сябе іншыя фармацыі правай арыентацыі. Лічыцца, што гэта асабістая заслуга яе лідара Конрада Адэнаўэра, які быў гатовы на кампрамісы і дыялог з усімі нізавымі ініцыятывамі нават ліберальнага кшталту. У выніку вопытным шляхам ім быў знойдзены ўнікальны рэцэпт партыі новага тыпу — партыі сярэдняга класу. Крытыкі злева, у сваю чаргу, лічаць, што ўздым CDU адбыўся за кошт уласцівага Адэнаўэру ваяўнічага антыкамунізму.

Так ці інакш, CDU ужо ў 1949 годзе па выніках першых у ФРГ выбараў стаў галоўнай правай сілай у краіне і ўрадавай партыяй. Гэта быў толькі дэбют. Усяго за 70 гадоў "чорныя" разам са сваімі партнёрамі з баварскага Сацыяльна-хрысціянскага саюза 16 разоў фармавалі кабінеты. Яны кіравалі ФРГ 41 год з 66 гадоў існавання рэспублікі. З канцлерамі ад CDU звязаны такія славутыя старонкі нямецкай гісторыі, як эканамічны цуд 1950-х гадоў, нараджэнне праекту Еўрасаюза, аб'яднанне краіны ў 1989-м. А пад кіраўніцтвам Ангелы Меркель CDU ужо трэці раз запар выйграе выбары.

Аднак, калі меркаваць па прэсе, усе былыя рэкорды і дасягненні мала цікавяць нямецкую грамадскасць. Атмасферы сапраўднага свята перашкаджаюць навіны пра крызіс у Грэцыі. Практычна ўсе каментатары згодныя, што амаль непазбежны дэфолт Грэцыі будзе мець негатыўныя наступствы для кар'еры Меркель і, як следства, для CDU. Доля адказнасці Меркель у «грызісе» (так часта называюць банкруцтва Грэцыі) відавочная. Фінансавы калапс у Грэцыі служыць імпульсам для дыскусій наконт палітычных тэндэнцый, якія ён здольны выклікаць у Германіі.

> **Пад кіраўніцтвам Ангелы Меркель Хрысціянска-дэмакратычны саюз ужо трэці раз запар выйграе выбары**

Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў нямецкім грамадстве і без грэчаскіх дэфолтаў назіраецца дастаткова трэндаў, якія гуляюць не на карысць CDU. Напрыклад, сталі сыход палітычнай дыскусіі ў інтэрнэт, дзе дзейнічаюць зусім новыя паліттэхналагічныя схемы і формулы выпрацавання сімпатый да таго ці іншага палітычнага акцёра. Сяброўства ў партыі ўсё часцей замяняюць проста падпіскай на нейкі акаўнт або «лайкам». Адсюль крыніца парадокса, калі колькасць галасоў, пададзеных за партыю Меркель на апошніх выбарах, быццам, вырасла, а колькасць сяброў яе партыі з пачатку стагоддзя скарацілася на трыста тысяч чалавек.

Старыя партыйныя мадэлі яшчэ працуюць на месцах, аднак у буйных гарадах яны яўна сталі анахранізмам. Бургамістры дзесяці самых буйных гарадоў ФРГ не належаць да партыі кансерватараў. Няма ніводнага гораду з насельніцтвам больш за 40 тысяч чалавек, якім бы кіраваў сябра CDU. Сярэдні ўзрост сябраў партыі — каля 60 гадоў, што ператварае яе з партыі сярэдняга класу ў партыю пенсіянераў.

«Грызіс», на думку палітолагаў, здольны надаць дынаміку гэтым працэсам, паколькі стабільнасць Еўразоны была адной з фішак Меркель. Хутчэй за ўсё, недавер да еўра можа негатыўна адбіцца на паказчыках росту нямецкай гаспадаркі. Наступным выклікам для Меркель можа стаць рэферэндум у Вялікабрытаніі аб выхадзе з ЕС, які падкосіць працэсы еўраінтэграцыі, — праекту, над якім Берлін працуе з 1950-х гадоў.

Праблема ў тым, што ніхто не разумее, якія формы набудзе незадавальненне канцлерам. Сёння мы назіраем фенаменальную слабасць апазіцыі на федэральным узроўні. Гэта засведчыў нядаўні скандал з праслухоўваннем амерыканскімі спецслужбамі нямецкіх грамадзян. Каскад абструкцый, які абрынулі на Меркель спікеры левай, сацыял-дэмакратычнай апазіцыі, не асабліва дапамог ружовым наблізіцца ў рэйтынгах да CDU. Напярэдадні юбілею CDU і іх баварскія партнёры карысталіся падтрымкай амаль 40 працэнтаў нямецкага электарату. Калі верыць выданню «Wirtschafts Woche», сацыял-дэмакраты нават разглядаюць варыянт — не высоўваць кандыдата на пасаду канцлера, калі Меркель будзе балатавацца на выбарах 2017 года.

Свой 70-ты юбілей CDU сустракае ў вельмі непрадказальнай сітуацыі. Шматлікія каментатары заклікалі лідараў CDU, уздымаючы келіхі, узгадаць мужнасць заснавальнікаў партыі. Яны таксама лічаць, што Ангеле Меркель патрэбна мастацтва імправізацыі, уласцівае Адэнаўэру. На думку шмат каго, лозунгам CDU павінна стаць назва вядомага фільму «Назад у будучыню!»

# Крэмль пераносіць выбары

**Дзярждума Расійскай Федэрацыі вырашыла перанесці дату наступных парламенцкіх выбараў. Што стаіць за гэтым рашэннем Крамля, журналісту НЧ Алегу Новікаву тлумачыць піцерскі прафсаюзны актывіст Сяргей Красноўскі.**



***— Дзяржаўная Дума ў першым чытанні прыняла папраўкі ў выбарчы кодэкс, паводле якіх парламенцкія выбары адбудуцца не ў снежні, а ў верасні 2016 года. Якая прычына пераносу даты, і наколькі гэта аргументавана?***

— Фармальна, ідэя пераносу дня выбараў належыць Уладзіміру Жырыноўскаму, хаця дэбаты вакол змены электаральнага календара мусіраваліся даўно. Так ці інакш, менавіта Жырыноўскі прапанаваў адпаведны законапраект ад імя сваёй фракцыі. Але паглядзіце на выніку дэпутацкага галасавання. Лічбы выразна паказваюць, што праект прайшоў выключна за кошт фракцыі адзінаросаў, якія галасуюць жорстка па адмашцы з Крамля.

Што тычыцца галоўнага аргументу за перанос, то ён не вытрымлівае ніякай крытыкі. Сцвярджаецца, што гэта дапаможа дэпутатам у спакойнай абстаноўцы прымаць бюджэт 2017 года. Гэта зусім не аргумент, паколькі раней выбары не перашкаджалі спакойнаму прыняццю бюджэту. Тым больш, што ўсе папярэднія «адзінаросія» думы галасавалі за бюджэт, прадстаўлены ўрадам, без усялякіх перашкод. І чаму пасля гэтага ў наступным годзе могуць узнікнуць праблемы з разглядам бюджэту? Ні адна душа з лагера лабістаў пераносу даты думскіх выбараў гэты момант патлумачыць не здольная.

***— Для чаго ў такім выпадку сапраўды патрэбен перанос?***

— Тут спалучэнне цэлага шэрагу фактараў, але я б назваў галоўны, пра які ў нас усё маўчаць. У лістападзе 2016-га ў ЗША пройдуць выбары. Будзе практычна поўная перазагрузка ўлады — пачынаючы ад ніжняй палаты, абнаўлення трэці Сената плюс выбараў новага прэзідэнта. Цяперашняя крамлёўская адміністрацыя можа тысячу разоў казаць аб праве на суверэнную дэмакратыю, аб бесперспектыўнасці знешніх санкцый, але на самай справе ўсе баяцца пераменаў у Белым доме. Усё ідзе да таго, што новы прэзідэнт будзе больш жорстка настроены ў дачыненні да Пуціна.

***— Аднак апазіцыі агітацыйную кампанію значна цяжэй весці позняй восенню, напярэдадні Навагодніх свят, чым вясной і летам. Чаму ўлетку наступнага года Касьянавым — Навальным не падняць народ на новую балотную плошчу?***

— Для апазіцыйных сіл кампанія ва ўмовах летніх адпачынкаў вельмі цяжкая, не кажучы ўжо пра тое, што сацыяльныя супярэчнасці за кошт танных прадуктаў, на гэты час нівеліруюцца. Гэта фіксуе ўся сацыялогія. То бок градус грамадскай незадаволенасці ў наступным верасні абяцае быць як мінімум ніжэй, чым у снежні. У гэтым плане таксама важны вопыт апошніх выбараў мэра 2013-га і муніцыпальных выбараў у верасні 2013-га ў Маскве на фоне наступстваў думскіх выбараў у 2011-м. У снежні 2011-га на чуткі пра фальсіфікацыі грамадства рэагавала прыкметным для ўсёй Расіі масавым так званым «белоленточным» рухам. Вынікі вераснёўскіх выбараў 2013-га і 2014-га, якія таксама былі дзесьці сумнеўныя, ніякіх масавых маніфестацый не выклікалі. Думаю, гэта ў тым ліку акрыліла ініцыятараў пераносу дня галасавання.

**25**

**працэнтаў выбаршчыкаў павінны прыйсці на ўчасткі для галасавання, каб выбары ў Дзярждуму Расійскай Федэрацыі адбыліся**

***— Калі выбарчая кампанія будзе пасіўнай, то як улада забяспечыць патрэбную яўку?***

— У Расіі для таго, каб выбары адбыліся, патрэбна яўка ўсяго 25 працэнтаў выбаршчыкаў. А гэтую лічбу адміністратыўна лёгка зрабіць. Прыкормленыя напярэдадні выбараў пенсіянеры, бюджэтнікі, лекары, настаўнікі, — усе па разнарадцы прыйдуць, прагаласуюць, папярэдне зняўшы бюлетэнь на мабільны, каб паказаць фота свайму начальству. Так ці інакш, 25 працэнтаў набяруць. Пры такой невялікай яўцы працэнт, пададзены за партыю ўлады, будзе максімальны.

Але самы галоўны плюс для ўлады ад пераносу ў тым, што большасць апазіцыйных партый не паспеюць зарэгістравацца. Згодна з законам, структуры для вылучэння сваіх кандыдатаў павінны падаць увесь пакет дакументаў за год да дня выбараў. Да пачатку снежня хтосьці, напрыклад Навальны, яшчэ мог паспець. Цяпер дакладна не паспее.

***— Прыкладна за год да выбараў у Думу ў Беларусі пройдуць выбары прэзідэнта. Яны могуць мець якія-небудзь уплыў на выбары ў Думу?***

— Цяжка сказаць, але сачыць за тэхналогіямі беларускай улады будуць адназначна. Фактар СНД заўсёды гуляў у Расіі пэўную ролю. Найбольш адыёзныя рашэнні спачатку праходзяць сваю абкатку ў суседніх дзяржавах. Так, адкат ад сістэмы партыйных спісаў і адраджэнне практыкі аднамандатных акругаў на выбарах у Думу і рэгіянальныя парламенты ў вайшоў у заканадаўчую норму Расіі пасля таго, як такую формулу апрабавалі на выбарах ва ўкраінскую Вярхоўную Раду ў 2012 годзе. Тады Януковіч забяспечыў сабе за кошт аднамандатнікаў паслухмяную большасць. Тут жа па слядах «трыумфу» Януковіча было вырашана перакроіць расійскае выбарчае заканадаўства. Думаю, не прайшоў бясследна і нядаўні крок Назарбаева, які вясной радыкальна пасунуў дату прэзідэнцкіх выбараў. У любым выпадку, некаторыя заявы расійскіх чыноўнікаў падобныя на лексіку казахскіх калегаў. Маўляў, больш ранняя дата галасавання дазволіць выйграць час для рэформаў.

***— Як рэагуе антыпуцінская апазіцыя на апошнія падзеі, і на што яна можа разлічваць выходзячы з новых рэалій?***

— Частка лібералаў рыхтуе запыт у канстытуцыйны суд. Арганізатары падачы спадзяюцца, што гэта паўплывае на выніку другога чытання. Маўляў, з-за ціску грамадства ўлады як мінімум пагодзяцца на прапанову камуністаў — перанесці выбары на пачатак лістапада. Але наўрад гэта прымусіць Крэмль адыграць назад. Паліттэхналагічныя меркаванні для забеспячэння камфорту расійскай эліты пакуль на першым месцы. Праўда, сітуацыя непрадказальная, і да восені наступнага года ўсё можа змяніцца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нарэнда Модзі



Прэм'ер Індыі трапіў пад увагу прэсы пасля таго, як 21 чэрвеня ў свеце прайшоў першы міжнародны Дзень ёгі, які ў свой час праз ААН пралабіраваў яго урад. У рамках святкавання было праведзена 30 тысяч імпрэзаў па ўсім свеце. Праўда, не абышлося без адміністратыўнага прымусу. Па загадзе Мінабароны ўсе жаўнеры індыйскай арміі 21 чэрвеня таксама актыўна займаліся ёгай. У прыступе эйфарыі ад дастойнага дэбюту сваёй ініцыятывы індыйскі прэм'ер нават заявіў, што «першы міжнародны Дзень ёгі адчыніў новую эру міру і гармоніі». Аднак гармоніяй, прынамсі ў Індыі, яўна пасля 21 чэрвеня не пахне. Крытыкі Нарэнды Модзі кажуць, што прапаганда ёгі як часткі індуісцкага нацыяналізму прыносіць напружанасць у адносіны паміж канфесіямі. Так, шэраг індыйскіх палітыкаў, якія абараняюць правы мусульманскага насельніцтва краіны, заклікалі да байкоту Дня ёгі. Цікава, што іх падтрымалі і хрысціяне. Апошняя падазрона паставіліся да таго, што акцыі ў рамках Дня ёгі па часе супалі з нядзельнай імшой у цэрквах. Нарэшце, стала вядома, што кампанія за Дзень ёгі была праведзена за кошт сродкаў, якія традыцыйна выдзяляліся на кампанію Clean India (Зрабі Індыю чысцей), у рамках якой грамадзяне збіралі смецце. На думку шмат каго, Дзень ёгі не каштаваў таго, каб ахвяраваць такой важнай для экалогіі кампаніяй, як Clean India.

### Роберт Бедронь



У пракуратуру гораду Слупск, якім кіруе першы ў гісторыі Польшчы мэр-гей, паступіла скарга на мэра. Аўтар скаргі, які з'яўляецца сябрам групы Агульнапольскага камітэта абароны ад сектаў і гвалту, патрабуе асудзіць мэра за тое, што ён зняў са сцяны свайго кабінета партрэт Папы Яна Паўла II. На думку клерыкала, зняўшы партрэт Папы, Бедронь тым самым забіў замах на годнасць вернікаў Слупску і парушыў правы органаў самакіравання. Аказваецца, рашэнне пра размяшчэнне партрэта ў кабінеце мэра было ў 2003 годзе прынятае гарадскім саветам, які адначасова надаў Яну Паўлу статус ганаровага жыхара Слупску. Свядома або не, аднак думку дэпутатаў Роберт праігнараваў. Прэса таксама звяртае ўвагу на тое, што ў мясцовым касцёле біскуп пачаў атакаваць мэра за яго сексуальную арыентацыю, як бы ствараючы фон пад будучы разгляд справы з партрэтам. Застаецца дадаць, што скандал выбухнуў у разгар рэформаў, якія пачаў Роберт у Слупску. Ён актыўна прыводзіць новыя кадры ў адміністрацыю, развівае альтэрнатыўны транспарт і сварыцца з прафсаюзамі з-за заробкаў камунальных супрацоўнікаў. Праўда, такая мегаактыўнасць не дапамагла яму выратаваць гарадскі бюджэт ад краху — вынік дзейнасці папярэдняга мэра. На днях Бедронь заявіў, што Слупску ў хуткім часе пагражае калапс, і папрасіў дапамогі ў прэм'ера.

### Эмамалі Рахмон



Таджыкскі прэзідэнт шырока адзначыў 18-ю гадавіну падпісання мірнай дамовы паміж урадам і ісламскай апазіцыяй, якая прыпыніла грамадзянскую вайну, што ў краіне цягнулася амаль 5 гадоў. У прынцыпе, дата не круглая, аднак на гэты раз інтарэс грамадскасці да Дня нацыянальнага адзінства (так называецца свята) быў вельмі вялікі. Справы ў тым, што ўрачыстасці прайшлі на фоне паведамленняў пра тэракты, якія арганізавалі ісламскія фундаменталісты. Між тым, сярод краін Цэнтральнай Азіі менавіта Таджыкістан лічыцца найбольш верагодная патэнцыйнай ахвярай атак экстрэмістаў. Не дарма ў сваёй прамове з нагоды свята Рахмон заклікаў моладзь «не дапусціць падзей, якія зараз ахапілі Ірак, Лівію, Егіпет, Афганістан і іншыя краіны». Між тым, эксперты вельмі нізка ацанілі гатоўнасць цяперашняга рэжыму супрацьстаяць магчымаму наступу ісламістаў з таго ж суседняга Афганістану. Прычына — будаўніцтва ў краіне дыктатуры пад клан Рахмона, што ў тым ліку парушае кампраміс 18-гадовай даўніны. Так, Партыя ісламскага адраджэння Таджыкістана, якая складала касцяк ісламскай апазіцыі, абвясціла, што не будзе адзначаць Дзень нацыянальнага адзінства ў знак пратэсту супраць ціску і пераследу, якому падвяргаюцца яе сябры ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі. Не так даўно лідар партыі быў вымушаны збегчы з Таджыкістана пасля таго, як супраць яго ўзбудзілі крымінальную справу.

3 ліпеня 2015 | № 26 (443) Новы Час

# Погляд праз шкло

Пасля размовы з Генадзем Драздовым я яшчэ раз пераканаўся, што таленавітыя людзі вельмі рэдка бываюць правільнымі і неканфліктнымі. Напэўна, талент і афіцыйная мараль — рэчы цяжка сумяшчальныя. Калі, канешне, размова пра сапраўдную асобу. Генадзь Драздоў менавіта з такіх, бо пасля вядомага радыкала Аляксея Марачкіна наўрад ці хтосьці яшчэ змог бы ўзначаліць творчую суполку «Пагоня».

**Аляксандр Тамковіч**



Генадзь Драздоў у сваёй майстэрні



Генадзь Драздоў. «Лівень», 2013

## Прыклады дзяцінства

Аповед пра сябе я пачну з расказу пра братоў. Абодва, Віктар і Жора, старэйшыя. Абодва, як і я, атрымалі вышэйшую адукацыю. Віктар скончыў Інстытут фізічнай культуры, які потым стаў універсітэтам, спецыялізаваўся «на лыжах». З часам ён радыкальна памяняў сваё жыццё. Зараз — пастар пратэстанцкай царквы.

У нейкім сэнсе кожны з нас ідзе па жыцці (у абывацельскім разуменні), як па шырокаму шляху, поўнаму розных спакус. І перад кожным паўстае своеасаблівы Рубікон — крочыць далей праз спакусы, альбо выбраць тое, што я называю «шляхам вузкай брамы» і ажыццявіў у адной сваёй карціне.

Віктар выбраў менавіта вузкую браму. Няпросты шлях ад спорту да Бога. З часам у пратэстантызм перайшлі ўсе блізкія, акрамя мяне. Я — прынцыповы прыхільнік аўтакефальнай беларускай нацыянальнай праваслаўнай царквы і з'яўляюся ў ёй намеснікам у царкоўнай Радзе.

А Жора скончыў вайсковае вучылішча ў Краснаярску. Служыў у расійскай авіяцыі 25 гадоў, зволіўся і прыехаў у Мінск. Зараз на пенсіі.

Усе мы нарадзіліся праз два гады. У 1955-м — Жора, 1957-м — Віктар, а 11 сакавіка 1959-га — я.

Мы родам з вёскі Паддуб'е Рагачоўскага раёну Гомельскай вобласці. Гэта 12 кіламетраў ад Доўску. Дарэчы, з Рагачова паходзіў Гервасій Валіваха, герой «Ладдзі Роспачы» Уладзіміра Караткевіча.

У школу я хадзіў у Старыя Журавічы. У гэтым мястэчку ў свой час былі праваслаўная царква, шыкоўны касцёл XVI стагоддзя і дзве сінагогі. У 1651 годзе ў касцёл прыязджаў сам кароль Польскі і вялікі князь ВКЛ Ян II Казімір, каб пакланіцца цудадзейнаму абразу Маці Божай. На жаль, на сённяшні дзень не захавалася нічога. Разбурылі яшчэ да вайны, пры першай хвалі Саветаў. Некалі там праходзілі буйныя кірмашы і, як і ва ўсёй Беларусі, жыло шмат габрэяў.

Выкладалі ў школе цудоўныя настаўнікі, у большасці габрэі. Дзякуючы ім сярод выпускнікоў заўсёды была вельмі вялікая колькасць тых, хто паступіў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Маці маю завуць Ганна Лаўрэнцьеўна. Дзявочае прозвішча Кісялёва. 1932 года нараджэння. У беларусаў сапраўднымі прозвішчамі былі словы накшталт «Кісель», «Дрозд», а канчаткі «оў» паявіліся пры русіфікацыі.

Адзін раз хацеў змяніць напісанае ў пашпарце, але трэба было ехаць за мяжу, і я банальна не паспяваў. Да таго ж змена прозвішча пацягне за сабой праблемы з пытаннямі спадчыны, маёмасці і г.д...

Маці была вельмі адметнай швачкай. Як і бацька, Пётр Мікалаевіч. Да таго ж ён лічыўся вельмі добрым краўцом і мог пашыць літаральна ўсё — шапкі, шубы і нават кажухі, якія патрабавалі асабліва моцных іголак. Яны ніколі не былі калгаснікамі.

Заказчыкі ехалі да бацькі з усяго раёна, і нават вобласці. Гэта быў чалавек вельмі складанага лёсу. Яго маці не стала яшчэ ў маленстве, і яе замяніла мачаха. Пасля вайны жыццё было надзвычай складаным. Працавалі, як кажуць, і старыя, і малыя.

У дзяцінстве мой бацька зваліўся з каня і зламаў галоўку бедранай косткі. Яна пачала загніваць, а добрай медыцыны ў нашых мясцінах тады не было. Прыйшлося тэрмінова ехаць у вобласць — ледзь-ледзь уратавалі. Так у 14 год ён стаў інвалідам, адна нага была карацей за другую.

Потым скончыў тэхнікум і стаў закройшчыкам. Матэрыяльна ўтрымліваў усю сям'ю. Паўтаруся, да яго часта прыязджалі розныя людзі. Я вельмі любіў слухаць іх расповеды пра вайну, пра жыццё, пра свет. Часам дарослыя так і казалі: «Глядзі, гэты малы слухае раскрыўшы рот...»

Да школы ад нашай вёскі паўтара кіламетры. Восенню і вясной мы хадзілі самі, а зімой, калі сумёты былі вялікія, наперадзе ішоў бацька. Памятаю: ён робіць праход, а потым мы малыя крочым... Калі маразы былі надзвычай моцнымі, у школу не хадзілі ўвогуле.

Першыя чатыры класа я вучыўся ў старой драўлянай школе, а потым пабудавалі двухпавярховую, каменную. Зараз яшчэ адну. Зрабілі ў ёй музей Макаёнка, бо той родам менавіта з нашых мясцінаў.

На жаль, зараз там усё вымірае. Чарнобыльская зона...

## Эцюды юнацтва

Маляваць я пачаў амаль адначасова з тым, як навучыўся хадзіць.

Па натуры я індывідуаліст, то бок не люблю людскі тлум. Як толькі гэта стала магчымым, бацькі павялі мяне ў дзіцячы садок. Праз некалькі гадзін я ўцёк. Яны паўтаралі спробу — я ўцёк зноў. Больш мяне нікуды не адводзілі. Пакідалі аднаго дома.

Я садзіўся каля вакна, дзьмуў на шкло. І пальцам маляваў на ім розныя рэчы. Бацькі гэта заўважылі і неўзабаве купілі каляровыя алоўкі, а потым і фарбы.

У першых класах школы, як і браты, я вучыўся вельмі добра і быў здатны да розных навук. Але яшчэ лепш маляваў. Недзе ў пятым-шостым класе з закрытымі вачамі на спрэчку я мог намаляваць партрэт Леніна.

Я настолькі захапіўся мастацтвам, што вучыцца стала не цікава. Да восьмага класа быў выдатнікам, а ў старэйшых класах стаў далёка не самым лепшым вучнем, пачаў прапускаць заняткі.

На жаль, у нашым рэгіёне не было з кім параіцца наконт таго, як і што лепш рабіць у мастацтве. У тыя гады мне не хапала хаця б некалькіх урокаў прафесійнага пісьма. Я аблазіў энцыклапедыі — і таксама нічога не змог знайсці. Да ўсяго даходзіў сам, нават эцюднік зрабіў сваімі рукамі.

На той момант мой старэйшы брат Віктар паступаў у інстытут фізічнай культуры і даведаўся, што ў Мінску ёсць яшчэ і мастацкая вучэльня. Як толькі ён пра яе расказаў, я адразу ж сабраўся і паехаў паступаць. Без усялякіх блатаў і адпаведнай падрыхтоўкі паступіў з першага разу.

Вучыцца трэба было чатыры гады. Вучэльня месцілася ў двары Акадэміі мастацтваў, там зараз політэхнічны тэхнікум, левае крыло. Свайго памяшкання ў яе тады не было. Наколькі я ведаю, яго няма па наш дзень.

У жыцці будучых мастакоў мне было цікава ўсё. Вучыцца пашанцавала разам з вядомымі зараз мастакамі — Сержуком Цімохавым, Генадзем Мацурам, Ігарам Рамашэўскім, Людай Шчамялёвай.

На мой погляд, самым запамінальным момантам вучобы стаў той, калі да нас прыйшоў выкладаць жывапіс Віктар Маркавец. Малады, прыгожы чалавек, які размаўляў на беларускай мове. Дарэчы, ён і пазнаёміў нас з Аляксеем Марачкіным. Аляксей Антонавіч запрашаў нас у сваю майстэрню дапамагаць рэстаўрыраваць творы Язэпа Драздовіча і Алёны Кіш. Дзякуючы гэтаму я ўпершыню сутыкнуўся з сапраўднай народнай творчасцю.

Знаёмства з Віктарам Маркаўцом і Аляксеем Марачкіным значна паўплывала на мой светапогляд, адметнасць мастацкага мыслення, фармавання творчага накірунку, які я зараз называю трансцэндэнтным сімвалізмам.

У 1979 годзе я скончыў мастацкую вучэльню, але адразу ў Акадэмію мастацтваў не трапіў, таму што не далі туды накірунак. Як і ў школе, я быў нядобранадзейным, бо ніколі не прагібаўся, не гандляваў сумленнем і ўсяго дабіваўся апантанай працай.

У вучэльні ўтраіх (разам з Лявонам Яшэнка і Міколам Макарам) мы здымалі адну кватэру і адначасова купілі тры гітары. Дачка гаспадара кватэры крышачку іграла, таму першыя ўрокі давала яна, а потым я ўсяму вучыўся ўжо самастойна. Час ад часу даю канцэрты. Пераважна на мастацкіх пленэрах. Для мяне гэта добрая магчымасць пераключаць мазгі, калі мастацтва вельмі стамляе.

Дык вось з Макарам, Яшэнка і іншымі студэнтамі мы вялі амаль багемнае жыццё. Напрыклад, маглі дазволіць сабе (у той час) паехаць у Маскву на цікавыя выставы ў музей Пушкіна альбо ў Трацціякоўскую галерэю.

Здаецца, квіток да Масквы тады каштаваў каля сямі рублёў. Начавалі прама ў пад'ездах — гітара, «чарніла», закусь... Зразумела, жыхарам гэта не падабалася. Выклікалі міліцыю. Нас выганялі, і з аднаго пад'езду мы беглі ў другі. Так перакантоўвалі ноч, а раніцай ішлі глядзець арыгіналы сусветна вядомых творцаў.

Тое ж самае было і падчас вучобы ў Акадэміі. Калі ў Маскве ладзіліся выставы работ Тамайо, Кандзінскага, Шагала, Малевіча, мы абавязкова на іх траплялі. Часам выпадала набыць каталогі, якія каштавалі вельмі дорага. Адзін — 25 рублёў, а студэнцкая стыпендыя — 40 рублёў. Мастаку вельмі важна бачыць арыгіналы.

**Для Бога і нашчадкаў не істотна колькасць нашых узнагарод. Ды і талент яны не вымераюць. Талент альбо ёсць, альбо яго няма...**

Акрамя гэтага я вельмі люблю класічную музыку, джаз. На канцэрты і выставы (дзе б ні быў) хаджу яшчэ з тых часоў. Бывае, за мяжой гэта каштуе нятанна. Не тое, што ў нашай філармоніі. Асабліва ў часы перабудовы. Тады кошт квітка

# Генадзя Драздова

быў прыкладна роўны кошту бутэлькі піва. Між іншым, сёння гэтая розніца таксама не вельмі значная...

### Сюжэты лёсу

Дыпломную работу (шыкоўную) па выніках вучобы ў мастацкай вучэльні мы рабілі чацвёра — я, Сяржук Цімохаў, Пётр Русак і Генадзь Мацур па Мажэйкаўскай царкве. Гэта праект аднаўлення. Зараз яе ведаюць, а раней царква была ў заняпадзе, зачыненая. Абараніліся на «выдатна».

Пасля заканчэння вучэльні мяне, паўтаруся, не накіравалі на далейшую вучобу, а размеркавалі ў Гомель у Бытрэкламу, але я паспеў прапрацаваць там толькі некалькі месяцаў — забралі ў войска. Таксама з прыгодамі, дарэчы.

Справа ў тым, што па прыезду ў Гомель я не мог нідзе прапісацца (на той час гэта было вельмі складана), а значыць, і стаць на вайсковы ўлік у ваенкамат.

А ў Мінску мяне вайскоўцы ўжо пачалі шукаць. Ледзь не зрабілі ўхілістам. Нават бацьку ліст напісалі пра пераслед «па заканадаўству». Прыйшлося самому ехаць у Рагачоўскі ваенкамат. Прызвалі за адны суткі. Пагражалі адправіць ледзь не на Далёкі Усход, але нічога ў іх не атрымалася.

Спачатку я трапіў у Печы, што пад Барысавам, а потым накіравалі пад Лепель, у Заслонава. Адразу хацелі пакінуць у медсанбаце пры вучэбцы, аднак потым пасля чарговага залёту адправілі ў «лінейку», то бок непасрэдна ў дзеючае войска.

Быў стралком-наводчыкам танка Т–72. Як кажуць, настраляўся на ўсё жыццё. Асабліва на вучэннях Захад–81, бо там наш батальён быў «у самым пекле».

Цікава, што ў Печах пазнаёміўся з Віктарам Мікітам (разам рабілі макет палігона), які потым стаў адным з маіх выкладчыкаў у тэатральна-мастацкім інстытуце і нават вазіў нас на практыку ў Пінск.

Аднак пра ўсё па чарзе. Пасля звальнення ў запас (восенню 1981 года), я вярнуўся ў Гомель. У Бытрэкламе, дзе да службы працаваў мастаком-афарміцелем (сёння — дызайнер), месца ўжо было занятае. Прыйшлося амаль восем месяцаў працаваць галоўным мастаком Спецыяльнага канструктарскага бюро сейсмічнай тэхнікі (СКБ СТ). Прадпрыемства было закрытым, то бок траплялі туды толькі па спецыяльным прапуску. Такая сістэма мяне вельмі напружвала, таму, як толькі з'явілася магчымасць, уцёк адтуль зноў у Бытрэкламу.

Ганаруся, што яшчэ ў 1982 годзе з сябрам Алегам Рабіновічам мы першымі ў Беларусі пачалі рабіць кляпаныя (з алюмініевай жылы) вітражы. Разам распрацавалі ўсю тэхналогію, бо якіх-небудзь даведнікаў тады папросту не было. Магчыма, тыя вітражы захаваліся і зараз, але дакладна не ведаю — столькі гадоў мінула...



Алесь Воранаў і Генадзь Драздоў



Генадзь Драздоў падчас вайсковай службы

Прыгадваецца і яшчэ адзін цікавы выпадак. Напярэдадні нейкіх травеньскіх святаў нам з Алегам даручылі намаляваць вялікі партрэт Леніна. Абодвум гэта было не даспадобы. Узялі два шчыты (тры на тры кожны), паштоўку і перавялі з яе малюнак.

За вечар усё зрабілі і пайшлі дамоў спаць. Раніцай наступнага дня (у часоў 10) я прыходжу на работу, бачу два перамаляваных на бела шчыты, каля якіх круціцца адзін з нашых калегаў, які спецыялізаваўся «на партрэтах палітбюро».

Аказалася, худсавету не спадабалася наша праца, і не ведаючы, што гэта паўтор паштоўкі, яны яе зарубілі. Да святаў засталіся суткі, таму для калегі гэта быў сапраўдны аўрал.

Зараблялі мы вельмі прыстойна. Абедалі толькі ў рэстаране з лепшай у горадзе кухняй. Былі грошы, але за іх не было чаго купляць. Гэта быў вельмі цікавы час рамантычнай маладосці і суровай рэчаіснасці саўковых часоў з каларытнымі асобамі і аўтарытэтамі, пра што можна пісаць цэлую кнігу.

### Колеры іншадумства

У 1983 годзе я паступіў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які потым стаў Акадэміяй мастацтваў. На станковую графіку. Конкурс там быў 15 чалавек на месца. Вучыўся шэсць гадоў.

Як толькі пачаў вучыцца, лёс сутыкнуў з Алесем Пушкіным. Нас нават у інтэрнаце пасялілі ў адзін пакой, дзе разам і пражылі тры гады. Да таго моманту, калі яго забралі ў войска.

Ён быў даверлівы, сентыментальны, і нават крыху наіўны вясковец. Так бы мовіць, чысты чалавек. А прыйшоў з войска зусім іншы Пушкін. Больш разважлівы, суворы, упэўнены ў сабе, мужны, які нічога не баіцца. Вось што значыць вайна.

Дарэчы, разам з намі ў інтэрнацкім пакоі жыў яшчэ і студэнт з Манголіі Эрдэн Бат.

Пасля службы ў Афганістане пачалося супрацьстаянне Алеся Пушкіна ўладзе. Памятаю, як перад ягоным перфомансам, мы хавалі ў бомбасховішчы плакаты. А пасля арышту стварылі ініцыятыўны групу па абароне мастака і патрабавалі выпусціць яго з-за кратаў. Гэта быў 1989 год.

Я тады абараняў дыплом, і мая майстэрня была своеасаблівым штабам падтрымкі Пушкіна. Дзверы там не зачыняліся.

Не скажу, што менавіта гэта на нешта паўплывала, але факт застаецца фактам — Алеся Пушкіна не выключылі з Акадэміі мастацтваў.

Дыплом у мяне зноў быў вельмі цікавы — «Погляд праз шкло». Я і сёння гэтую тэму працягваю распрацоўваць. Дарэчы, за гэтую графічную серыю я атрымаў дыплом Першай ступені на II Мінскай міжнароднай выставе графікі ў 2009 годзе.

Скончылася вучоба ў 1989 годзе. Але пасля Чарнобыльскай катастрофы ўсе мае планы ехаць у Гомель, стварыць там мастацкую базу і пастаянна працаваць рухнулі. Мая родная вёска трапіла ў «зону непрымусовага адсялення», потым мы з бацькамі адтуль з'ехалі ўвогуле. І мелі, трэба адзначыць, рацыю.

Сярод маіх знаёмых, аднасяльчан, блізкіх хворых на анкалогію з кожным годам усё больш і больш. Рак літаральна косіць людзей. Японцы зрабілі правільны прагноз, калі сказалі, што праз 25–30 гадоў пасля аварыі пачнецца пік анкалагічных захворванняў. Зараз так яно і ёсць. Толькі за апошнія чатыры гады наша суполка «Пагоня» страціла дзевяць чалавек. І гэта пры тым, што ў яе ўваходзіць толькі 55 чальцоў.

Паўтаруся, Чарнобыль радыкальна змяніў мае жыццёвыя планы. Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў у мяне не было нічога. Ні жытла, ні майстэрні, ні працы. Уся мая маёмасць месцілася ў заплечніку.

Яшчэ падчас вучобы ў сталічнай Вяснянцы я вёў ізастудыю, і там падпольна (ніхто гэтага не ведаў) жыў. Умовы былі нармальныя. Пад жытло абсталявалі маленькі пакойчык. Два разы на тыдзень праводзіў з дзеткамі заняткі, а ва ўсе астатнія дні займаўся творчасцю. Потым узяў туды Пушкіна. А потым нас адтуль паперлі. Пушкіна выгналі першага, і ён з'ехаў у Віцебск.

Мяне таксама з дапамогай міліцыі пачалі выганяць. На пераезд далі трое сутак. Давялося шмат што пакінуць у ізастудыі, бо не было куды перавозіць. На шчасце, тады мяне пачалі запрашаць распісваць праваслаўныя цэрквы на Беласточчыну, што дазволіла крыху зарабіць і здымаць кватэру. Гэта былі мае першыя выезды за мяжу.



Генадзь Драздоў разам са скульптарам Гэнікам Лойкам

На здымных кватэрах я пражыў да 1997 года, калі бацькам у Малінаўцы далі двухпакаёвую кватэру. Дарэчы, гэта было апошняе, што дзяржава дала «чарнобыльцам».

На жаль, бацька пражыў у той двухпакаёўцы толькі чатыры гады. Не змог перанесці трэці інфаркт. А маці, дзякуй Богу, жывая па наш дзень. Ёй 83 гады. Усе мае сваякі па жаночай лініі жывуць доўга.

У 1999 годзе я ўступіў у Саюз мастакоў і стаў сябрам створанай яшчэ 1990 годзе мастацкай суполкі «Пагоня», якую з 2010 года і ўзначальваю.

І яшчэ. Падчас вучобы з Сержуком Цімохавым мы купілі флейты і самастойна навучыліся на іх граць. Бывае, перад нейкімі персанальнымі выставамі альбо на пленэрах я даю канцэрты не толькі на гітары, але і на флейце. Граю творы з «Полацкага сшытка», імправізацыі, а на гітары — толькі творы ўласнага сачынення.

А нядаўна адбыўся мой літаратурны дэбют. У альманаху «Скрыжалі «Спадчыны». На жаль, апошнім часам узмацніўся ціск на «Пагоню». І не толькі ў сувязі з тым, што некаторыя (напрыклад, дзеючы кіраўнік БСМ) дзеля кар'ерных ды прагматычных меркаванняў выйшлі з нашых шэрагаў. Справа ў тым, што мастацкая суполка «Пагоня» і я (як старшыня) маем сваю пазіцыю па пытаннях выставачнай дзейнасці БСМ, гаспадарчай і іншых. Прынцыпова іх адстойваем. Менавіта гэта і дзейнічае на некаторых кіраўнікоў, як тая чырвоная анучa на быка. Мяне зараз нават імкнуцца вызваліць з пасады кіраўніка «Пагоні». Афіцыйнае абвінавачванне гучыць так, цытую: «Дроздов Г.П. председатель секции «Погоня» отказался участвовать в выдвижении кандидатур, назвав работу Президиума «гульнёй».

Тры гады запар наша секцыя прымае рашэнне не ўдзельнічаць у вылучэнні і галасаванні кандыдатур на дзяржаўныя ўзнагароды, і я (як старшыня) абавязаны выконваць рашэнні секцыі, што і раблю. І два гады не было ніякіх прэтэнзіяў. Відавочна, што абвінавачванні смешныя і не маюць аніякай юрыдычнай моцы. Я гатовы да любога раскладу.

Для вечнасці ўсе гэтыя ўзнагароды не будуць мець каштоўнасці. І ўвогуле, усё гэта неяк дзіка для XXI стагоддзя. Але для некаторых таварышаў нібыта час спыніўся. Або яны тужацца перашкодзіць часу. Больш за тое, кіраўнікі БСМ (і яшчэ група мастакоў) вылучылі сябе на прэмію так званай саюзнай дзяржавы за роспіс новай прэзідэнцкай рэзідэнцыі.

Для Бога і нашчадкаў не істотна колькасць нашых узнагарод. Ды і талент яны не вымераюць. Талент альбо ёсць, альбо яго няма.

**Аўтар удзячны культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» за інфармацыйную падтрымку**

# Чаму на Шры-Ланцы ёсць міністэрства моваў

Дзяніс ТУШЫНСКІ,
намеснік старшыні ТБМ

**Таварыства беларускай мовы распрацавала законапраект «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы», які прадугледжвае стварэнне дзяржаўнага дэпартамента беларускай мовы. Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў адмовіўся ўключыць праект у план падрыхтоўкі законапраектаў на 2015 год.**




Трохмоўная шыльда цэнтра вывучэння тамільскай мовы паліцэйскай акадэміі

А вось на Шры-Ланцы існуе Міністэрства нацыянальных моваў і сацыяльнай інтэграцыі.

Для большасці ланкійцаў першай мовай з'яўляецца сінгальская ці тамільская. 87% (ад амаль 17 мільёнаў ва ўзросце ад 10 гадоў) можа размаўляць па-сінгальску, 28,5% — па-тамільску, 24% — па-англійску. Сінгальская мова распаўсюджана пераважна на Шры-Ланцы, але большасць людзей, для якіх родная тамільская (70 мільёнаў), жыве ў суседняй Індыі.

Сярод таміламоўных на Шры-Ланцы вылучаюць ланкійскіх тамілаў, індыйскіх тамілаў і ланкійскіх маўраў-мусульман.

Цэйлон (з 1972 года — Шры-Ланка) стаў незалежным ад Брытаніі ў 1948 годзе. Перад тым і сінгалы, і тамілы ўдзельнічалі ў руху за замену англійскай у якасці афіцыйнай мовы Цэйлона сінгальскай і тамільскай мовамі. Але было прапанавана замяніць англійскую толькі сінгальскай (а тамільскую зрабіць афіцыйнай у таміламоўных правінцыях). Мяркуюць, наданне тамільскай роўнага з сінгальскай статусу можа прывесці ажно да поўнай страты апошняй, бо тамільская мова больш распаўсюджаная ў свеце.

Колькасць ланкійскіх тамілаў у англамоўнай дзяржадміністрацыі была большай, чым іх працэнт у насельніцтве (у значна большай ступені гэта было ўласціва нешматлікім нашчадкам еўрапейска-цэйлонскіх шлюбаў і еўрапейцам). Сінгалы ж складалі там меншы працэнт. Шэраг аўтараў называе гэта праявай каланіяльнай палітыкі «падзяляй і валадар». Частка сінгалаў лічыла, што пры брытанцах ланкійскія тамілы былі ў прывілеяваным становішчы. Ёсць меркаванне, што сітуацыя, у якой дзяржаўныя пасады былі прэстыжнымі і эканамічна прывабнымі, была галоўнай прычынай прасінгальскіх заклікаў у моўнай сферы.

У пачатку 1950-х гадоў усе асноўныя партыі выступалі за раўнапраўе моваў (толькі тамільскай тады валодала 21,6% насельніцтва, 10% — ёй і сінгальскай, 2% — ёй і англійскай). Але праз некалькі гадоў ідэя адной афіцыйнай мовы ў краіне набрала моц. У 1956 годзе прэм'ерам стаў Саламон Бандаранаіке, які абяцаў выбарцам зрабіць сінгальскую адзінай афіцыйнай мовай (і выкарыстанне тамільскай «у разумных межах»). Раней гэты палітык і яго партыя выступалі за роўнасць моваў, і такі паварот тлумачаць эксплуатацыяй настрояў сінгальскага электарату дзеля яго галасоў. Партыя папярэдняга прэм'ера зрабіла такі ж разварот па моўным пытанні. За сінгальскую ў якасці адзінай афіцыйнай мовы краіны выступілі ў тым ліку многія будыйскія манахі (большасць сінгалаў — будысты, тамілаў — індуісты), хаця некаторыя манахі заклікалі да прымірэнчага рашэння. Гучаў і тэзіс, што адну дзяржаўную мову мець танней.

У 1956 годзе быў прыняты Закон аб афіцыйнай мове, абвясціўшы адзінай афіцыйнай мовай сінгальскую. Спроба прэм'ера замацаваць у законе і правы таміламоўных правалілася праз супраціў сінгальскіх экстрэмістаў. Удзельнікі сядзячага пратэсту супраць закона былі атакаваныя натоўпам сінгалаў. Тамілаў у сталіцы збівалі і рабавалі іх крамы.

Сярод іншых фактараў, што пагаршалі міжэтнічныя адносіны, было, напрыклад, засяленне ўрадам нядаўна ірыгаваных земляў на ўсходзе і поўначы краіны. Многія пасяленцы былі сінгаламі, і рэзалюцыя Федэральнай партыі, асноўнай тамільскай партыі краіны, назвала мэтай перасялення зрабіць таміламоўных меншасцю ў іх нацыянальных раёнах.

У адказ на прыняцце закона Федэральная партыя запатрабавала ў тым ліку тамільскай аўтаноміі і роўнасці тамільскай і сінгальскай моваў, партыя і прэм'ер-міністр дасягнулі кампраміснага пагаднення, якое прадугледжвала і афіцыйнае выкарыстанне тамільскай у таміламоўных правінцыях.

У 1958 годзе пад ціскам крытыкі і пратэсту з сінгальскага боку, Бандаранаіке ануляваў пагадненне. У адказ Федэральная партыя арганізавала негвалтоўныя пратэсты на поўначы і ўсходзе. Сінгальскія экстрэмісты атакавалі цягнікі, што маглі везці дэлегатаў на партыйны з'езд. Паднялася хваля гвалту супраць тамілаў. Пацярпелі і сінгалы. Многія з іх давалі прытулак тамілам, і падазраваныя ў гэтым станавіліся ахвярамі. У сваю чаргу, частка тамілаў скіравала гвалт супраць сінгалаў. З 1956 года і да грамадзянскай вайны адбыліся і іншыя антытамільскія пагромы; у ліку ахвяр былі і сінгалы.

У 1958 годзе ўсё ж быў прыняты Закон аб тамільскай мове, які гарантаваў тамілам права вучыцца на сваёй мове, здаваць на ёй экзамены на дзяржаўную пасаду (пры ўмове (а)валодання афіцыйнай мовай), перапісвацца са службоўцамі. У пераважна таміламоўных Паўночнай і Усходняй правінцыі тамільская магла выкарыстоўвацца з адміністратыўнымі мэтамі. Але тамілы патрабавалі шырэйшага ўжытку мовы, напрыклад, права перапіскі на ёй між мясцовымі і цэнтральнымі службоўцамі.

**Варта было б і нам патрабаваць ад уладаў агучыць палітыку адносна развіцця беларускай мовы: з мэтамі, датамі і адказнымі асобамі**

Пастанова, на падставе якой павінен быў рэалізоўвацца закон, была зацверджана парламентам толькі ў 1966 годзе і не была выканана напоўніцу.

На поўначы і ўсходзе краіны ўступленне ў моц Закона аб афіцыйнай мове ў 1961 годзе было сустрэта кампаніяй пратэсту. У ёй прынялі ўдзел і сінгалы. Шматтыднёвую сядзячую забастоўку, што блакавала ўваход у адміністратыўны будынак, урэшце брутальна разагналі войскі.

У 1970 годзе быў забаронены экспарт таміламоўнай літаратуры і фільмаў з Індыі, спыненыя паездкі ў Індыю тамільскіх студэнтаў. Некалькі год дзейнічалі такія правілы прыёму ў ВНУ, што тым, хто здаваў уступныя экзамены на тамільскай, для паступлення трэба было набіраць вышэйшыя балы, чым сінгаламоўным. У 1970-я актывізаваліся тамільскія баевікі.

Канстытуцыя 1978 года і папраўкі да яе канца 1980-х паднялі статус тамільскай мовы. Сёння афіцыйнай мовай з'яўляецца сінгальская, тамільская «таксама з'яўляецца афіцыйнай мовай». Многіх, праўда, гэта «таксама» не задаволіла. Англійская мае статус мовы-пасярэдніка. Абедзве афіцыйныя мовы абазначаны як мовы адміністрацыі і судаводства па ўсёй краіне (з пазнакай, што тамільская выкарыстоўваецца гэтак на поўначы і ўсходзе). Замацавана права афіцыйна карыстацца тамільскай у сінгаламоўных раёнах і наадварот. Законы прымаюцца ці публікуюцца на абедзвюх мовах.

У 1983 годзе міжэтнічны канфлікт выліўся ў грамадзянскую вайну, у ходзе якой тамільскія сепаратысты імкнуліся стварыць незалежную тамільскую дзяржаву. Асноўнай узброенай групай сепаратыстаў (што пацярпелі паразу) сталі «Тыгры вызвалення ТамілІлама», прызнаныя ЕС і шэрагам іншых краін тэрарыстычнай арганізацыяй. Розныя бакі канфлікту абвінавачваюцца ў ваенных злачынствах. Вайна цягнулася па 2009 год. Па ацэнках ААН, ахвярамі вайны сталі ад 80 да 100 тысяч чалавек.

На кантраляванай «Тыграмі» тэрыторыі ажыццяўляўся моўны пурызм, афіцыйныя ўстановы адхілялі заявы не на чыстай тамільскай мове.

Прэса апошніх гадоў сведчыць, што моўная праблема яшчэ не вырашана. Напрыклад, у сталіцы цяжка знайсці добрую працу, калі не валодаеш сінгальскай, тамілам там звычайна даюць падпісваць паліцэйскія пратаколы на сінгальскай, хаця тамілы і маўры складаюць у Каломба большасць. Большасць паліцэйскіх на поўначы краіны не валодае тамільскай і г.д.

Аднак у 2010 годзе было створана міністэрства нацыянальных моваў і сацыяльнай інтэграцыі. Яго місія — фармаванне адзінага ланкійскага грамадства праз дыялог між этнічнымі групамі. Для яе рэалізацыі ўстанова ставіць перад сабой у тым ліку наступныя мэты: забеспячэнне білінгвізму ў сферы дзяржаўнага кіравання; распаўсюд шматмоўнасці; зацікаўленне этнічных супольнасцяў культурай суседзяў; заахвочванне грамадзян падаваць у адпаведную камісію скаргі аб парушэннях іх моўных правоў; распаўсюд валодання англійскай мовай; распрацоўка моўнай палітыкі.

Сродкам распаўсюду білінгвізму з'яўляюцца моўныя таварыствы, якія праводзяць навучанне сінгальскай і тамільскай мовам. Таварыствы таксама збіраюць інфармацыю па выкананні моўнай палітыкі ў пэўным раёне. Яны служаць пасярэднікамі ў канфліктах паміж прадстаўнікамі розных этнасаў і арганізуюць міжэтнічныя спартовыя і культурныя мерапрыемствы.

Міністэрству падпарадкаваны шэраг арганізацый, напрыклад, Камісія па афіцыйных мовах, што дае рэкамендацыі ў галіне моўнай палітыкі і ладзіць маніторынг выканання моўнага раздзела канстытуцыі, разглядае скаргі грамадзянаў і праводзіць моўны аўдыт. Камісія прапагандуе дзяржаўную моўную палітыку, у тым ліку праз грамадскія круглыя сталы.

Дэпартамент афіцыйных моваў у тым ліку забяспечвае афіцыйны пераклад у дзяржустановах, праводзіць атэстацыю валодання мовай і курсы мовы для службоўцаў.

З ланкійскага досведу можна зрабіць высновы. Перш за ўсё, бачна, наколькі сур'ёзная рэч моўная палітыка, да якіх страшных і руйнавальных для краіны наступстваў могуць весці пэўныя рашэнні ў гэтай галіне.

Варта было б і нам патрабаваць ад уладаў агучыць палітыку адносна развіцця беларускай мовы: з мэтамі, датамі і адказнымі асобамі.

Можна заснаваць інстытут перакладчыкаў для перакладу замежнай літаратуры і распаўсюду нашай культуры ў свеце, а таксама курсы ўдасканалення мовы для службоўцаў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 885

Падпісана да друку 2.07.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.